# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

23 чэрвеня 2017 года №25 (1156)





**42 гады таму гэта віляйчанка была адзінай медалісткай у паралелі. Колькі сіл трэба было прыкласці, каб атрымаць залаты медаль у савецкі час**

старонка 2

**Як мылі ў пральных машынах, якія працавалі пяць хвілін, а адзежу трэба было выкручваць уручную**

старонка 21
















# За 10 дзён чэрвеня ў Маладзечанскім раёне загінула двое двухгадовых дзяцей

Фота stihi.ru

**Яшчэ адно дзіця ў крайне цяжкім стане знаходзіцца ў бальніцы.**

9 чэрвеня ў вёсцы Баяры патануў хлопчык, якому яшчэ не паспела споўніцца двух гадоў. Ён гуляў па беразе вадаёма са сваім старэйшым братам, якому восем гадоў. Раптам паслізнуўся і ўпаў у ваду.

Выратаваць дзіця не паспелі.

У цяперашні момант праводзіцца праверка і ўстанаўліваюцца прычыны і ўмовы, пры якіх адбыўся гэты няшчасны выпадак.

Яшчэ адна трагедыя адбылася ў адной з вёсак Маладзечанскага раёна 18 чэрвеня.

Двухгадовае дзіця гуляла ў сельскагаспадарчых пабудовах без нагляду бацькоў.

У адной з іх дзіця вырашыла зазірнуць у вялізны куфар.

Ён падняў века, і яно яго прыдушыла.

Бацькі спрабавалі выратаваць дзіця да прыезду "хуткай", аднак ім гэта не ўдалося. Дзіця памерла.

Яно ў сям'і быў трэцім.

Двума днямі раней, 16 чэрвеня, у Маладзечне таксама двухгадовае дзіця атрымала цяжкія траўмы.

Хлопчыка бацькі пакінулі пад наглядам дзядулі. Дзіця па кватэры каталася на самакаце.

Раптам дзядуля пачуў грукат і крык дзіцяці.

Аказалася, што ў суседнім пакоі на дзіця ўпаў тэлевізар.

Цяпер хлопчык ў крайне цяжкім стане знаходзіцца ў бальніцы.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч.**

**Наталля ТУР.**

# 42 гады таму гэта віляйчанка была адзінай медалісткай у паралелі

## Колькі сіл трэба было прыкласці, каб атрымаць залаты медаль у савецкі час

ВІЛЕЙКА

**42 гады таму віляйчанка Зінаіда Каган (цяпер Галавенка) была адзінай медалісткай не толькі ў сваім класе, але і ў паралелі. Якіх высілкаў каштавала атрымаць залаты медаль у савецкі час? Ці было рашаючым, што скончыла школу "на выдатна"? Мы і пагаварылі з ёй.**



Фота Галіны СУДНІКОВІЧ.

Зінаіда Галавенка з залатым медалём.



Фота забяспечанае Зінаідай ГАЛАВЕНКАЙ.

Фота Зінаіды Каган (Галавенкі) са школьнага выпускнога альбома.

Жанчына скончыла сярэднюю школу №1 у Вілейцы. Як яна адзначае, лёгка было вучыцца толькі ў першых класах, бо была цалкам падрыхтаваная. Мама, **Валянціна Пiлiпаўна**, працавала настаўніцай пачатковых класаў, а затым гісторыі, таму навучыла чытаць, пісаць.

### У класе сябрамі былі ўсе, бо давала спісваць

А вось у старэйшых класах было цяжэй. Лёгка даваліся мовы, алгебра, падабалася вялікімі формуламі арганічная хімія. Геаметрыя і фізіка ішлі цяжэй. У пятым класе за першую чвэрць атрымала тры чацвёркі: па геаграфіі, фізкультуры і працоўным навучанні.

– Настаўніца геаграфіі **Варвара Азарэвіч** была вельмі патрабавальная, – узгадвае Зінаіда Львоўна. – Мяне чамусьці выклікала на кожным уроку. Аднак адзін раз паставіць пяцёрку, а другі – тройку, хацця я і рыхтавалася дома.

У другой чвэрці ўдалося выправіць адзнакі на пяцёркі. Тады ж дакладна вызначылася, што хоча стаць настаўніцай – як мама. Паўплывала на рашэнне і настаўніца англійскай мовы **Надзея Фясенка**. Пасля яе ўрокаў вырашыла, што будзе настаўніцай англійскай мовы.

– Хутчэй за ўсё, была зубрылкай, – дае сабе ацэнку віляйчанка. – Аднак з класам адносіны склаліся добрыя. Са мной сябравалі ўсе, бо давала спісваць.

Акрамя вучобы дзяўчына ўдзяляла ўвагу спартыўным спаборніцтвах. Да дзявятага класа вучылася ў музычнай школе. Скончыла яе толькі з адной чацвёркай. Але год пасля заканчэння не падыходзіла да фартэпіяна – не хацелася іграць.

– Малодшая сястра, **Вольга**, таксама некаторы час займалася ў музычнай школе, – расказвае жанчына. – Аднак гэты занятак быў ёй не па душы.

### Была першай медалісткай у сям'і

У старэйшых класах бацькі Зінаіды ведалі, што дачка прэтэндуе на медаль, падштурхоўвалі: "Трэба старацца, каб без чацвёрак, – будзе сорамна, калі не атрымаеш".

– Але скончыць школу на пяцёркі было не проста, – расказвае жанчына. – Цяпер экзамены пасля школы толькі па чатырох прадметах, тады здавалі ўсе: некаторыя – пісьмова, некаторыя – вусна. Гэта ўжо пасля колькасць экзаменаў пачалі скарачаць.

Аднак усё атрымалася, яна была адзінай выдатніцай у паралелі і першай у сям'і, хто скончыў школу з залатым медалём. Праз чатыры гады подзвіг паўтарыла сястра. Аднак у яе выпуску яна была не адзінай медалісткай.

### Вучылася так, каб атрымаць стыпендыю

Медаль дапамог падчас паступлення – здавала толькі адзін экзамен.

Бацька марыў, што дачка будзе доктарам, мама спыняла – няхай сама вызначыцца. Медыцыну нават не разглядала – баялася крыві. З часам бацька звыкся, што будзе настаўніцай, супакойваў сябе: "Добра, што хоць настаўніцай англійскай мовы, хоць паўкласа сшыткаў правяраць".

– У інстытуце не імкнулася скончыць "на выдатна", – расказвае жанчына. – Галоўнае, атрымаць стыпендыю, бо ў адваротным выпадку было б сорамна перад бацькамі. Часам атрымлівала павышаную, але ў большасці – сярэднюю. Плацілі тады 40 рублёў. Гэтых грошай хапала, каб купіць французскую касметыку Lancome, схадзіць у тэатр – не прапускалі ні адной прэм'еры, і на харчаванне.

### У Вілейцы ўгаварыў застацца бацька

На пятым курсе жанчына выйшла замуж, таму атрымала свабодны дыплом. Муж, Уладзімір, скончыў факультэт перакладаў. Яго размеркавалі ў Бангладэш, там сям'я правяла два гады. Пасля жанчына вярнулася ў Вілейку да бацькоў, муж прыехаў праз год.

– Вырашалі, дзе далей жыць, куды ўладкавацца на працу, – расказвае віляйчанка. – Меркавалі, што ў Мінску больш перспектыўна, аднак бацька ўгаварыў застацца тут. У 70-х гадах залілі вадасховішча, працаваў завод "Зеніт", планавалася, што праз Вілейку будзе хадзіць электрычка – горад лічылі перспектыўным. Паддаліся на ўгаворы бацькі, так і засталіся тут.

У Вілейцы муж Зінаіды Львоўны не знайшоў работу па спецыяльнасці, атрымаў другую вышэйшую адукацыю інжынера-механіка, працаваў на рамонтным заводзе.

Зінаіда Львоўна да дэкрэтнага адпачынку і некалькі месяцаў пасля працавала ў дзіцячым садку.

– Аднак мне вельмі хацелася вярнуцца настаўніцай у родную школу, – расказвае педагог. – Прыйшла да дырэктара, прынесла неабходныя дакументы, і той з задавальненнем узяў мяне. Фактычна толькі два разы ў жыцці сыграў сваю службу медаль: пры паступленні і ўладкаванні на працу.

Сын і дачка Зінаіды Львоўны, **Аляксей** і **Ганна**, таксама скончылі школу з залатымі медалямі.

– Сын імкнуўся атрымаць яго, хлопцу важна, каб яго лічылі лепшым, – расказвае маці. – А вось дачка, наадварот, казала, навошта той медаль. Як аказалася, медаль быў рашаючым пры яе паступленні. Ва ўніверсітэце быў конкурс чатыры чалавекі на месца, выбралі маю дачку, бо скончыла школу з медалём.

Зінаіда Львоўна адзначае, што калі яна заканчвала школу, медаль меў большую вагу. Цяпер у большасці выпадкаў лёс абітурыентаў рашае тэставанне.

– Сёлета дзяўчына, у якой я была класным кіраўніком, скончыла школу з залатым медалём, – дзеліцца настаўніца. – Калі ў яе спыталіся, навошта ёй патрэбны медаль, яна адказала, што ў першую чаргу яна самой сабе даказала, што можа яго атрымаць, можа скончыць школу "на выдатна".

### Пра сучасную і савецкую сістэмы адукацыі

– Мы былі вельмі заціснутыя. Сучасныя дзеці не баяцца выказваць свае думкі, памыляцца. Сённяшняя сістэма адукацыі дае больш магчымасцяў для дзяцей: хочаш вучыць мову – калі ласка, можна завесці сяброў у інтэрнэце, кантактаваць з імі па-англійску, ездзіць за мяжу. Аднак нельга сказаць, што тая альбо іншая сістэма лепшая, яны розныя.

### Пра цяперашніх выпускнікоў ВНУ

– Настаўнікі замежных моў прыходзяць вельмі падрыхтаваныя, – адзначае Зінаіда Львоўна. – Аднак трэба зазначыць, што педагагічная адукацыя заўсёды была вельмі якасная. І гэта тычыцца не толькі ВНУ, але і каледжаў. Зімой у мяне была практыкантка з Полацкага дзяржаўнага каледжа, яна таксама паказала сябе вельмі добра. Іншая справа, маладыя спецыялісты надоўга не затрымліваюцца ў школе, знойдуць лепшую работу і... сыходзяць.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Руэ.рф

# Пакуль на клубніцы “салодкая” цана

## Калі ягады пачнуць даражэць?

МАЛАДЗЕЧНА

**Яшчэ месяц таму цэны на клубніцы былі кусачыя – за паўкілаграма прасілі шэсць рублёў. Набыць іх можна было ў трох гандлёвых пунктах. У параўнанні з пачаткам сезона мінулага года яны падаражэлі ўдвая.**

Калі на працягу месяца цана на клубніцы падала павольна, то на гэтым тыдні цэны змяншаюць штодзень. У панядзелак ягады каштавалі 4 рублі 50 капеек, у аўторак – 3 рублі 80 капеек, у сераду, 21 чэрвеня, цана за кілаграм – 3 рублі.

За дамашнія ягады на рынку просяць 3 рублі, аднак ягады прадаюць у ёмістасці ад кілаграмовага маянэзу, паўлітровае вядро ацэньваюць у 9 рублёў.

Брэсцкія клубніцы набываюць больш ахвотна і не толькі маленечкімі пакецікамі, каб ад'есціся, але і вёдрамі, каб замарозіць альбо зварыць варэнне.

Аднак варта паспяшацца, калі вы хочаце купіць ягады “па салодкай” цане. Аналіз цэн на рынку паказвае, што пачынаючы ад 20 чысла клубніцы пачынаюць даражэць, бо адыходзіць сезон. Летась максімальная цана, да якой патаннелі клубніцы, была 2 рублі 80 капеек. Пачынаючы ад 29 чэрвеня ягады падаражэлі да 3 рублёў, а ад 6 чэрвеня зніклі з рынку, засталіся толькі дамашнія.

Разам з цэнамі на клубніцы звычайна ўзлятаюць і цэны на чарэшні. Сезон на іх таксама заканчваецца. Летась цана ў канцы сезона была 5 рублёў, столькі ж ягады каштуюць цяпер. Таму хутка цана на іх падскочыць.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 14.06 | 21.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | **2,25** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,10 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,29 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 7,49 | **7,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,85 | **1,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,69** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 3,99 | **4,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **2,70** |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 3,95 | **4,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,49 | **4,50** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,85 | **1,80** |
| Памідоры, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,60** |
| Перац, 1 кг | 6,45 | **6,30** |
| Кавун, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 3,95 | **6,00** |
| Клубніцы, 1 кг | 4,00 | **3,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 4,95 | **4,00** |
| Персікі, 1 кг | 4,75 | **4,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **4,85** |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,75 | **3,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,69 | **2,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **1,85** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,69 | **3,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,69 | **1,60** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.06 | 22.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8771 | **1,9219** |
| Еўра | 2,1048 | **2,1404** |
| Злоты, 10 | 5,0072 | **5,0585** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2929 | **3,2062** |
| Грыўня, 100 | 7,2182 | **7,3855** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **14.06** | **21.06** |
| Еўра | 2.0900/2.1100 | **2.1100/2.1400** |
| Долар ЗША | 1.8650/1.8800 | **1.8950/1.9250** |



Фота Наталлі ТУР.

"Хонда" пасля аварыі.

## Непадалёк ад Турэц-Баяраў "Хонда" некалькі разоў перакулілася ў паветры

МАЛАДЗЕЧНЕ

Здарэнне адбылося ў нядзелю, 18 чэрвеня.

Пра тое, як адбылася аварыя, "РГ" расказала дзяўчына, што ў момант аварыі знаходзілася за рулём.

– Мы самі з Астраўца, ехалі з адпачынку з боку Маладзечна ў бок Смаргоні. Перад намі ехаў трактар з бочкай вады, за намі машына "Форд". Я паглядзела, што машына, якая рухалася ззаду нас, паварот не паказвае, таму я вырашыла абганяць трактар. І калі ўключыла паваротнік і перастроілася на сустрэчную паласу, мяне стаў абганяць "Форд". Я спалохалася і паспрабавала вярнуцца ў сваю паласу, але зачапілася за трактар. Машыну перакуліла ў паветры некалькі разоў. Я была за рулем, побач сядзеў муж. Ён параніўся разбітым шклом. "Хуткая" яго адвезла ў бальніцу ў Смаргонь.

Машына рамонту не падлягае.

"Форд" манёўр завяршыць паспеў. У машыне знаходзілася маладая сямейная пара і двое дзяцей. Яны не пацярпелі.

**Наталля ТУР.**

## Ад 22 да 25 чэрвеня ДАІ праводзіць акцыю "Менш колаў – больш небяспекі"

МАЛАДЗЕЧНА

Начальнік Маладзечанскай ДАІ **Дзмітры Юркевіч** расказаў, што з надыходам лета на дарогах павялічваецца колькасць мотатранспарту. Колькасць ДТЗ з іх удзелам таксама павялічваецца.

Падчас акцыі інспектары ДАІ будуць больш старанна патруляваць дарогі, праводзіць сустрэчы з матацыклістамі ў працоўных калектывах.

Таксама будуць правярацца двары, каб выявіць незарэгістраваныя транспартныя сродкі.

## "Форд" перакуліўся ў кювеце: кіроўца загінуў

ВАЛОЖЫН

Смяротная аварыя адбылася 18 чэрвеня каля 13:25 непадалёк ад вёскі Сакаўшчына.

44-гадовы кіроўца "Форда-Мандэа" ехаў па трасе ў напрамку вёскі Стайкі, няправільна выбраў хуткасць, з'ехаў у кювет, і аўтамабіль перакуліўся.

Кіроўца памёр на месцы. Ён не быў прышпілены рамянём бяспекі. Пра гэта паведамілі ў ДАІ Мінскай вобласці.

**Паводле auto.tut.by.**

## Суд пакараў пенсіянерку за словы "жыдоўская морда"

МАЛАДЗЕЧНА

"Мая суседка па вёсцы даволі канфліктная, – расказаў **Дзмітры Кавалгін**. – І тут яна нам перакрыла ваду, я пайшоў разбірацца. Яна не адгукалася, таму зайшоў на ўчастак. Калі выйшла, пачала лаяцца, выклікала міліцыю, напісала заяву на мяне: маўляў, незаконна трапіў на яе тэрыторыю".

Дзмітры таксама вырашыў напісаць на пенсіянерку заяву – ужо вельмі фрывольна яна паводзіла сябе ў спрэчцы. Сярод іншага, назвала Дзмітрыя "жыдоўскай мордай".

"Праз тыдні два-тры мне прыйшоў ліст з міліцыі, у якім гаварылася, што яе заява адхілена, а маю разгледзяць у судзе. Суд відавочна не хацеў гэтым займацца, мне настойліва прапаноўвалі прымірыцца, адмовіўся. Па выніку выклікалі сведкаў, склікалі пасяджэнне. Яе прызналі вінаватай і далі штрафу пяць базавых велічынь", – падсумаваў Дзмітры.

**Паводле "Нашай Нівы".**



# Пад Маладзечнам у кювет з'ехала "хуткая". Ёсць пацярпелыя

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося пасля 13 гадзін у пятніцу, 16 чэрвеня.**




Фота Наталлі ТУР.

Вадзіцель "хуткай" не справіўся з кіраваннем, і машына вылецела ў кювет.

Непадалёк ад вялікага кальца ў кювеце стаіць "хуткая дапамога". На месцы цяпер працуюць супрацоўнікі ДАІ.

Як расказалі відавочцы здарэння, "хуткая" рухалася ў бок Мінска. Яна кагосьці абганяла. Выехала на сустрэчную паласу, а манёўр, відаць, завяршыць не паспела, стала вяртацца на сваю паласу, і кіроўца не справіўся з кіраваннем. Машыну занесла, яна з'ехала ў кювет.

Таксама відавочцы кажуць пра трох пацярпелых, якіх таксама "хуткая" забрала ў бальніцу.

**У машыне паламаныя пярэднія колы, разбітая ветравая шыба.**

Ці ехала "хуткая" на нейкі выклік, невядома.

Начальнік Маладзечанскай ДАІ **Дзмітры Юркевіч** расказаў, што па абставінах здарэння ў дадзены момант праводзіцца праверка. А пацярпеў у аварыі толькі фельчар "хуткай". У яго зламая рука. Другі фельчар і кіроўца атрымалі нязначныя пашкоджанні.

**Наталля ТУР.**

# "Супакойся, не то заб'ю". З-за рэўнасці жыхар Астравецкага раёна збіваў і душыў жанчыну. Яна прэтэнзій не мае

АСТРАВЕЦ

Канфлікт адбыўся вечарам 31 студзеня ў Астраўцы. Прыгавор па гэтым здарэнні ўступіў у законную сілу ў маі. Асуджаны атрымаў арышт на тры месяцы і штраф на 50 базавых.

Аляксей, 30-гадовы жыхар Страчы, прыехаў у студзені ў Астравец. Мужчына хацеў знайсці працу, таму трэба было прайсці медкамісію. 23 студзеня ён пачаў жыць у знаёмай 45-гадовай Тамары, пакуль займаецца працаўладкаваннем.

**З тыдзень яны жылі без праблем, як адзначае Тамара, "душа ў душу".**

30 студзеня пара з'ездзіла да Аляксея ў госці ў Страчу, дзе жывуць бацькі мужчыны.

На наступны дзень вярнуліся ў Астравец. Адразу пайшлі ў магазін, дзе купілі бутэльку гарэлкі і мясныя вырабы. Каля 16 гадзін прыйшлі ў кватэру Тамары, прыгатавалі вячэру і селі за стол. Распіўшы бутэльку, пайшлі ў магазін яшчэ па дзве і працягнулі застолле.

У пары ўзнік канфлікт, але хутка яны памірыліся і працягнулі піць. Пасля 21 гадзіны паміж мужчынам і жанчынай зноў узнік канфлікт. Па версіі Аляксея, яму надакучылі пастаянныя папрокі Тамары з-за рэўнасці. Тамара прыгадвае, што ён пачаў яе раўнаваць. У гэты момант мужчына сядзеў на ложку каля стала, яна ж сядзела на стуле насупраць яго. Раптам Аляксей ударыў яе кулаком у твар. Жанчына ўпала на падлогу, але Аляксей не спыніўся і працягнуў біць. Не менш за чатыры разы ўдарыў па галаве, плячах, руках.

**Тамара закрывала твар рукамі і крычала "Памажыце!"**

Аляксей абхапіў яе рукамі і пачаў душыць, пры гэтым крыкнуў: "Супакойся, не то заб'ю!" Праз 3-4 секунды ён разняў рукі, жанчына пачала хрыпець і папрасіла адпусціць. Аляксей схапіў яе за валасы, працягнуў па падлозе і зацягнуў на ложак, вырваўшы пасму.

У сваіх паказаннях Аляксей адзначаў, што намеру забіць жанчыну ў яго не было. Ён хацеў, каб яна супакоілася і перастала крычаць, таму напужаў яе.

Пасля гэтага Тамара супакоілася, а Аляксей лёг на ложак і заснуў. Разбудзілі яго міліцыянеры, якіх выклікала суседка.

**Пасля збівання Тамара каля васьмі дзён ляжала ў бальніцы. У яе быў зламаны палец, сінякі, раны, нават праз некалькі месяцаў яна адчувае наступствы.**

Дзеянні Аляксея выклікалі расстройства здароўя Тамары больш чым на чатыры месяцы. Аднак нягледзячы на гэта Тамара падчас допыту адзначыла, што не мае да Аляксея ніякіх прэтэнзій, не хоча, каб яго прыцягвалі да крымінальнай адказнасці, пісаць заявы адмаўляецца.

Суседзі ў якасці сведак пацвердзілі, што з кватэры былі жаночыя крыкі аб дапамозе і мужчынскія з пагрозай забойствам. У кватэры знайшлі плямы крыві на дыване, падушцы і ложку, а таксама пасму валасоў.

Аляксею прад'явілі абвінавачанне за наўмыснае прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання, якое выклікала доўгае расстройства здароўя, а таксама за пагрозу забойствам.

Аляксей арыштаваны на тры месяцы і аштрафаваны на 50 базавых велічынь (1 150 рублёў). Ён мусіць прымусова лячыцца ад хранічнага алкагалізму.

**Дзмітры БАГДАНОВІЧ, памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

**Імёны ўдзельнікаў зменены.**




АФІША

# Конкурс "Адна Зямля" адбудзецца ў выхадныя ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

Фестываль-конкурс песні "Адна зямля" адбудзецца ў межах святкавання Дня моладзі.

24 чэрвеня на сцэну летняга амфітэатра выйдуць прадстаўнікі Астравецкага, Ашмянскага, Валожынскага, Вілейскага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Смаргонскага раёнаў.

Удзельнікі падзеляцца на чатыры ўзроставыя катэгорыі ад 6 да 31 года. Яны спяюць дзве песні, адна з іх абавязкова павінна быць беларускіх аўтараў.

"Рэгіянальная газета" выступае сузаснавальнікам гэтага конкурсу. Пераможцы ўзнагароджваюцца дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Прыз "глядацкіх сімпатый" традыцыйна ўручае "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

# Фэст вышыванкі пройдзе ў Вязынцы

МАЛАДЗЕЧНА

Восьмага ліпеня ў Вязынцы пройдзе "Фэст вышыванкі". На фестывалі будуць прадстаўленыя вырабы беларускага адзення, паясоў, майстар-класы і шмат іншага.

Распачнецца фестываль у 12 гадзін.

Ад 12:30 да 13:00 адбудзецца дэфіле беларускай вышыванкі.

У 13:00 пачнецца майстар-клас, падчас якога кожны ахвотны зможа зрабіць сам магніцік з вышыванкай.

У 15:00 пачнецца выступленне калектыву "Крынічанька" цэнтралізаванай клубнай сістэма Маладзечанскага раёна.

А ад 15:30 да 16:30 – майстар-клас па бытавых танцах, этнаграфічны гурт "Кола" з Маладзечанскага раёна.

Падчас свята можна будзе прымераць на сябе беларускую вышыванку, а таксама купіць яе. Пачаставацца гарбатай на травах і проста добра правесці час.

**Аддзел інфармацыі.**

# Упершыню падчас футбольнага матча балельшчыкі змогуць зарабіць грошы

МАЛАДЗЕЧНА

**Футбольны клуб "Маладзечна" падчас суботняга матча разыграе 10 прызоў па 10 рублёў. А таксама нейкі сакрэтны суперпрыз.**

У госці да маладзечанцаў едзе каманда "ЮАБ – Жыткавічы".

Футбольны клуб з Жыткавічаў удзельнічае ў чэмпіянаце другой лігі чацверты сезон.

Тры мінулыя сезоны правалiў і значыўся ў ролі аўтсайдара.

Чаго не скажаш пра сезон-2017, дзе каманда **Андрэя Мінчука** ўзначальвае турнірную табліцу. Падобна на тое, што ў Жыткавічах усё наладзілася і футбол пайшоў на ўздым.

З ЮАБ маладзечанцы сустракаліся ў 2014 і 2016 гадах. І гэта, бадай, адзіная каманда, якая ні разу не забівала ў вароты ФК "Маладзечна" і з якой у мінулым сезоне маладзечанцы ўсталявалі снайперскі рэкорд: лік тады быў 14:0.

Паглядзім, як усё будзе на гэты раз.

**Аддзел інфармацыі.**





Куплю

Прадам

Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by



## ВІНШАВАНКА

**Аляксандру Аляксандравічу РАТКЕВІЧУ з Чысці!**

Дарагі наш! Віншуем цябе з юбілеем!

Жадаем шчаслівых будняў, адсутнасці трывог і бед, любові і радасці, весялосці, разумення, поспехаў, моцнага здароўя, цярпення і бадзёрасці, дабра і дабрабыту. Няхай усё, што ў цябе атрымалася, будзе тваім гонарам, а ўсё, да чаго імкнешся, — абавязкова здзейсніцца.

**З павагай, сястра і яе сям'я.**

**Аляксандру Аляксандравічу РАТКЕВІЧУ з Чысці**

Паважаны Аляксандр Аляксандравіч! Віншуем Вас з юбілеем! Жадаем Вам, такому няўрымсліваму, не сцішаць ходу, мець здароўе і каб усё, што плануеце, пра што марыце, абавязкова здзяйснялася.

*Жадаем сонечнага неба,*
*Сяброў надзейных за сталом,*
*І каб жыццё было сагрэта*
*Усмешкай, радасцю, дабром.*

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**



| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1974 г.в., у добрым стане. Вілейка. Т. (8-044) 7182499.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Пежо-5008, 2013 г.в., з Германіі. Т. (8-029) 6372633.*
- Рэно-19, 1,7 бензін, машына ў добрым стане альбо мяняю на Пежо 306 з маёй даплатай. Т. МТС (8-029) 5039360, (8-01771) 34305 Віктаравіч.*
- ФВ-Пасат Б6, 2005 г.в.,2,0Б, сядан чорны. Т. (8-029) 3510064.
- КІА-Спортэйж, 2008 г.в., 2,0 бензін, цёмна-шэры металік, прабег 310 тыс, у добрым стане. Т. (8-029) 6432425.
- Форд-Сіера, 1990 г, 2,0 бензін, добры стан, ёсць тэхагляд, два камплекты гумы, новая зімовая гума, глушыцель, тармазныя дыскі, бак і шмат іншага,1700 (торг). Т. (8-029) 5141783.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль, мікрааўтобус у любым стане. Т. (8-029) 3883300.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*
- Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.
- 2-павярховы жылы катэдж у цэнтры Вілейкі, усе камунікацыі. Т. (8-029) 6251817. Мікалай.*
- Участак 15 сотак у в. Снежкава. Тэрмінова! Т. (8-029) 5063882.
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6362026.*
- Дом у в. Міндзяны, д.34. Агульная плошча 126 кв.м.Т. (8-01591) 38017, (8-029) 1711246.
- Дом у Вілейскім раёне, в. Засценкі. Т. (8-033) 3513656.
- 2-павярховы дом у Вілейцы. Т. 5-61-70, (8-029) 9041668.
- 5-пакаёвы сучасны катэдж з лазняй 2011 г. у Мядзеле, 168 000 руб. Т. (8-029) 6414245. Валянцін.*
- Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.
- Дом драўляны ў Вілейцы з участкам 28 сотак, 53 000 руб. Т. (8-033) 6613837.
- Дом драўляны (патрабуецца рамонт), 2 км ад Вілейкі, в.Клыні. Недалёка вадасховішча. Ёсць калодзеж. 25 сотак. 5 000 рублёў, торг. Т. МТС (8-029) 5642606.*
- Дом у аграгарадку Занарач Мядзельскага раёна. Ёсць газ, да возера 700 м. Т. (8-01771) 44356.
- 3-пакаёвая кватэра ў Астраўцы. Т. (8-029) 3492726.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 2-павярховы дом у Вілейцы па вул. Юбілейнай,11. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Т. (8-029) 7039162.*
- 3-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі, з рамонтам, лоджыя 6 м. Нядорага. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, д. 54. Т. (8-033) 3839112.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, "Зеніт", еўрарамонт. Нядорага. Тэрмінова. Т. (8-029) 1558499.*
- Гараж у Вілейцы, яма, падвал, ГБК-2. Т. (8-029) 2558669.*
- Гараж у ГК №1. Т. (8-029) 2505060, (8-029) 6262756.*
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*
- Дом у в. Елажычы, у добрым стане, на беразе ракі Нарач, побач лес. Т. МТС (8-029) 2635616, Vel (8-029) 6258476.*
- Дом у в. Куранец, участак 20 сотак альбо абмен. Т. МТС (8-029) 7603076.*
- Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у Вілейцы 70 кв.м, бервяно, участак 15 сотак, сад, калодзеж, цана 28 тыс. бел. руб. Т. (8-01771) 21293, (8-01771) 54399.*
- Дом у Вілейцы, дыхтоўны, 60 000 руб. Торг. Т. (8-029) 6147015.*
- Павільён гандлёвы. Т. (8-029) 6654868.*
- Участак 8 сотак на Браслаўскіх азёрах, 100 метраў ад возера Струста. Т. 98-029) 7040724, (8-029) 6151143.*
- 2-пакаёвая прыватызаваная кватэра плошчай 44,3 кв.м, 2 паверх, у г.п. Гарадзея (цукровы завод Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці) альбо памяняю на кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 54-13-55, (8-033) 3423075, (8-029) 9381700.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.



- Участак з домам у в. Насілава, 25 сотак. Т. МТС (8-029) 8143388.*
- Дача, 49 км ад Маладзечна, в. Заазер'е, 91,5 км ад вёскі Талуць) на беразе возера, побач лес, рэчка. Цудоўнае месца для адпачынку або адкрыцця аграсядзібы. Гатоўнасць 80%. Т. (8-029) 6631960.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 88. Т. (8-029) 5634407.*
- Дом у а.г. Лебедзева, 36 кв. м, участак 0,25 га, прыватызаваны. Т. (8-029) 8737656.*
- Зямельны ўчастак 0,25 га ў п.Свір. Возера ў 50 м, праз дарогу. На ўчастку электрычнасць, фундамент, магчымасць падключэння да газу. Гатовы праект. Без пасрэднікаў. Т. (8-044) 7571949.*
- Участак дачны 9 сотак у 3,5 км ад г. Маладзечна, прыватызаваны, у СТ "Міліяратар" (в. Забалоцце). Т. (8-0176) 541355, (8-033) 3423075, (8-029) 9381700.*
- Дом нежылы з участкам у 11,5 соткі ў вёсцы Лебедзева, вул. Савецкая, д. 61. Т. (8-029) 7091821.*

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, вул. Скарыны, 16-63. Т. (8-0176) 778468.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

## Што трэба ведаць пра студэнцкія атрады

Патрабаванні

- не менш за 7, не больш за 30 чалавек
- працягласць працы - не менш за 10 дзён



фарміруе — арганізацыя, якая накіроўвае

каардынуюць і кантралююць — аператыўныя штабы (ствараюць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы)

студэнцкі атрад

Дзейнасць студэнцкага атрада ажыццяўляецца на падставе дагавора, што заключаецца паміж арганізацыяй, якая накіроўвае, і прымаючым бокам

- *зарэгістраваць удзельнікаў студэнцкага атрада,*
- *прыняць на работу,*
- *праверыць наяўнасць пасведчання сацыяльнага страхавання* *(калі яго няма, неабходна запоўніць «Анкету застрахаванай асобы», перадаць яе ў агульнарэспубліканскую базу персаніфікаванага (індывідуальнага) уліку і выдаць работніку пасведчанне сацыяльнага страхавання),*
- *для прынятых па працоўных дагаворах, унесці запісы ў працоўныя кніжкі* *(асобам, якіх упершыню прымаюць на работу, неабходна выпісаць працоўныя кніжкі),*
- *пасля завяршэння перыяду дзейнасці звольніць.*

# Арганізацыям, якія прынялі на работу студатрад, далі льготу

Ад 2016 года арганізацыям, якія прымаюць студатрад, далі льготу па вызваленні ад уплаты абавязковых страхавых унёскаў на пенсійнае страхаванне (на выпадак дасягнення пенсійнага ўзросту, інваліднасці і страты карміцельца) для працадаўцаў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва у памеры 29%.

Абавязковыя страхавыя ўнёскі налічваюцца і аплачваюцца толькі ў памеры 7% (6% – сацыяльнае страхаванне, 1% утрыманы з заробку работніка) у частцы выплат, налічаных на карысць удзельнікаў студэнцкіх атрадаў.

Лісткі непрацаздольнасці, атрыманыя ў перыяд работы ў студэнцкім атрадзе, аплачваюцца ва ўстаноўленым парадку.

Адказнасць за правільнасць і своечасовасць налічэння і выплаты абавязковых страхавых унёскаў, а таксама падачы звестак, неабходных для вядзення персаніфікаванага ўліку ("Звесткі аб прыёме і звальненні", "Індывідуальныя звесткі", "Звесткі аб суме выплат (даходу), якія ўлічваюцца пры налічэнні пенсіі, і страхавых унёскаў", "Дадатковыя звесткі аб стажы") за ўдзельнікаў студатрадаў нясе кіраўнік прымаючага боку.

**Паводле раённага аддзела Мінаблупраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**


Фота Міхаіла КУЛЯША.

Падчас фестывалю "Гонар продкаў" у 2015 годзе.

# Турнір лучнікаў, штурм замка, нумізматыка і ткацтва

## У Вілейцы пройдзе фестываль "Гонар продкаў"

ВІЛЕЙКА

**Сёлета ўдзельнікаў фестывалю "Гонар продкаў" чакае насычаная праграма. Акрамя рыцарскіх турніраў, турніраў лучнікаў пройдуць разнастайныя майстар-класы. Фестываль пройдзе ў Ніжнім парку ў Вілейцы.**

### Праграма фестывалю

30 чэрвеня – дзень заезду ўдзельнікаў, аднак увечары ахвотныя могуць наведаць два семінары

20:00-21:00 – "Нумізматыка Усходняй Еўропы эпохі Сярэднявечча".

Выкладчык – **Дзмітры Гулецкі**, даследчык нумізматыкі і матэрыяльнай культуры. Аўтар збору, даследавання і апісання тэматычнага раздзялення розных тыпаў штэмпеляў паўгрошай **Жыгімонта Старога**. Дэлегат ад Беларусі на нумізматычных канферэнцыях у Раўбічах, Беластоку і Вільні ў 2005–2007 гадах. Аўтар шматлікіх прац па нумізматыцы.

21:00-22:00 – "Паміж уніяй і незалежнасцю – першая феадальная вайна ў ВКЛ 1432-1438 гадоў".

Выкладчык – **Вадзім Дамарад**, Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Шамякіна. Выкладчык гісторыі, краязнаўца, публіцыст. Галоўны рэдактар гістарычнай газеты "Лабірынт". Стваральнік і кіраўнік студэнцкага гістарычнага клуба "Аматары Беларускай Гісторыі імя Вацлава Ластоўскага". Адміністратар гістарычнай суполкі "Гісторыя Беларусі/History Of Belarus".

### 1 ліпеня

**Асноўная пляцоўка**

11:00-11:30 – адкрыццё фэсту.

11:30-12:20 – штурм замка.

12:40-13:40 – пешы рыцарскі турнір.

14:30-15:00 – майстар-клас па стральбе з лука.

15:00-16:00 – лясны бугурт па спрошчаных правілах (захоп сцяга, караля).

17:00-17:40 – турнір 5х5, 3х3.

18:20-19:00 – бугурты па спартыўных правілах ("белыя" і поўнакантактныя).

19:00-19:30 – сярэднявечныя танцы.

19:00-21:00 – турнір лучнікаў.

19:30-01:00 – канцэрт і вогненнае шоу.

**Этнапляцоўка**

12:20-12:40 – музычныя і тэатральныя выступленні.

13:30-13:50 – тэатр батлейка гурта "Гарынь" з пастаноўкай "Пра дзеда і яго дачку".

16:00-17:00 – блок беларускіх народных танцаў.

17:30-17:50 – тэатр батлейка з пастаноўкай "Пра дзеда і яго дачку".

17:50-18:20 – музычныя і тэатральныя выступленні.

**Анімацыйная пляцоўка**

13:00-19:00 – анімацыйная праграма.

13:30-14:10 – Семінар 3: "Спіральны налеп як спосаб вырабу посуду, пачынаючы з бронзавага веку і да цяперашняга часу. Гісторыя і методыка лепкі".

Выкладчыкі – **Наталля Кабанава, Сяргей Моўчан**, БДУ. Рэканструктары, майстры-керамісты.

13:50-14:30 – Семінар 4: "Выцінанка – Сусвет, створаны нажніцамі".

14:30-15:10 – Семінар 5: "Беларускі народны строй, рэгіянальныя асаблівасці".

16:00-16:40 – Семінар 6: "Эвалюцыя пласцінчатага даспеху ранняга і позняга сярэднявечча".

Выкладчык – **Аляксандр Бакаеў**.

17:40-18:20 – Семінар 7: "Ткацтва на дошчачках. Еўрапейскія паясы 9-13 стагоддзяў".

Выкладчыца – **Ната Касуха**, беларускі ўніверсітэт культуры, настаўніца, рамесніктках.

19:00-19:40 – Семінар 8: "Спосабы распальвання агню ў старажытнасці і сярэднявеччы".

Выкладчык – **Аляксандр Бакаеў**, рэканструктар, майстра па вырабе даспехаў майстэрні Terra.

### 2 ліпеня

**Асноўная пляцоўка**

09:00-11:00 – турнір лучнікаў.

10:30-11:00 – турнір збраяносцаў.

11:00-11:40 – штурм замка.

11:40-12:30 – музычныя і тэатральныя выступленні.

11:40-12:40 – семінар 9: "Традыцыйныя купальскія песні Падзвіння".

13:20-14:00 – семінар 10: "Практычнае валоданне сярэднявечнай зброяй: мячом, дзідай, баявым цэпам і іншае".

12:40-13:20 – бугурты.

14:00 – закрыццё фэсту.

**Паводле рыцарскага фестывалю "Гонар продкаў".**

**Даведка "РГ". Бугурт** – рыцарскі турнір, бітва не ва ўмовах вайны, праводзіцца з трэніровачнай, затупленай альбо драўлянай зброяй.

## Што чакае віляйчан падчас фестывалю моладзевых субкультур

ВІЛЕЙКА

30 чэрвеня ў гарадскім парку пройдзе фестываль моладзевых субкультур "Энергія маладосці".

13:00. Моладзевы канцэрт і фестываль фарбаў Холі.

14:00. Тэатральная пляцоўка. Выступяць тэатральныя калектывы вілейскага Дома культуры "Таланцікі" і нарачанскага сельскага Дома культуры "Ялінка".

Аб'яднанне "ЗОВІК" арганізуе выставы "Хэнд-Мэйд" і майстар-класы па здаровым харчаванні.

Запланаваная работа ціра ад добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту. Ахвотныя змогуць пастраляць з пнеўматычнай вінтоўкі, пройдуць майстар-класы па зборцы аўтамата Калашнікава.

Аматары цыркавога мастацтва і фаер-шоу змогуць трапіць на майстар-класы і паказальныя выступленні па кручэнні пой і жангліраванні.

Для аматараў жывёл, асабліва сабак, пройдзе майстар-клас ад кінолага па дрэсіроўцы, паказальныя выступленні дрэсіраванай аўчаркі і конкурс сабачай моды.

Для аматараў экстрэмальнага спорту – спаборніцтвы і паказальныя выступленні па стрытворкаўту і скейтбордзінгу.

Ад 21:00 да 23:00 – рок-канцэрт. У рамках дзён устойлівай энергіі з 22:00 будзе арганізаваная светлавая інсталяцыя святлодыёдных шароў, фаер-шоу і спецыяльная забава для ўсіх ахвотных – "Запалі ліхтар, круцячы педалі электрабайка".

– Электрабайк дадуць нашы партнёры – Цэнтр экалагічных рашэнняў з Мінска, – адзначыла арганізатар **Вольга Шляпо**. – Ён абсталяваны механізмам, які выпрацоўвае энергію, калі круціць педалі. Да яго далучаць провад ад святлодыёднага шара. Можна будзе прадэманстраваць альтэрнатыўную крыніцу энергіі. Сам ровар будзе стаяць на месцы, любы чалавек зможа пакруціць педалі і прадэманстраваць, як запальваецца святлодыёдны шар.

23:00 – 01:00 – дыскатэка.

Таксама ў парку будзе арганізавана работа арт-зон: выстава вулічнага мастацтва ад праекта "Артгрузавік", "Фотасушка", "бодзіарт" і іншыя.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Міжнародны форум "Сябры Гарадка" запрашае

МАЛАДЗЕЧНА

24 чэрвеня ў аграгарадку Гарадок пройдзе чацверты Міжнародны адкрыты форум "Сябры Гарадка. Беларуская, яўрэйская, польская, руская і ўкраінская традыцыі ў часе".

**Гасцей форуму чакае наступная праграма:**

У 10 гадзін пачнецца мітынг каля помніка загінулым землякам. Паніхіда. Адкрыццё знака аб гарадоцкім гета. Пасадка алеі.

10:40 – пачастунак салдацкай кашай.

11:00 – экскурсія па Гарадку.

11:30 – сельскі Дом культуры. Выстава рамёстваў. Подыум удзельнікаў, якія раскажуць пра беларускія, польскія, яўрэйскія, немецкія, украінскія, рускія традыцыі.

12:30 – фільм **Тырзы Аміцур-Берман**, прысвечаны памяці закатаваных жыхароў Гарадка.

14:00 – музычная праграма. Выступленне фальклорнага гурта "Кола".

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчанам прапануюць падзяліцца парадамі па эканоміі энергіі. Усіх чакаюць прызы

ВІЛЕЙКА

Да 30 чэрвеня будзе доўжыцца акцыя "Энергазберажэнне і я". Акцыя праходзіць у рамках дзён устойлівай энергіі ў Вілейцы.

Жыхарам Вілейскага раёна прапануюць падзяліцца сваімі экалагічнымі звычкамі і карыснымі парадамі па эканоміі энергіі. Галоўная ўмова ўдзелу ў акцыі – напісаць сваю гісторыю пра тое, як вы дапамагаеце захоўваць навакольнае асяроддзе.

Даслаць ліст можна на электронную пошту peramoga45@tut.by альбо ў суполцы "Укантакце", якая называецца "Інфармацыйны цэнтр аб рабоце камунальных службаў".

Усе ўдзельнікі атрымаюць прызы: кнігі, кепкі, экабутэлькі для пітной вады. Аўтары трох найбольш цікавых гісторый атрымаюць пледы і парасоны. Узнагароджанне адбудзецца 30 чэрвеня ў рамках фестывалю моладзевых субкультур "Энергія маладосці".

Пра акцыю расказала арганізатар фестывалю **Вольга Шляпо**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як першая самаробная лялька пазбавіла сну Таццяну Карпец

МАЛАДЗЕЧНА

**Актрысу Таццяну Карпец можна сустрэць не толькі на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра. Яна не менш таленавіта ўдзельнічае ў розных кірмашах як майстрыха.**

Таццяна Карпец робіць сваімі рукамі лялькі, сувеніры, упрыгожванні. Ды яна і сама з задавальненнем носіць завушніцы, кальє, брошкі ўласнага вырабу і надзявае іх на адну са сваіх гераінь – Бабу Ягу.

Здольнасці да творчасці, гаворыць Таццяна, у яе ад продкаў.

– Бабуля мая працавала ў арцелі ў горадзе Таруса, вязала пуховыя хусткі. Дзядуля быў мастаком-самавучкам.

Усё дзяцінства Таццяны прайшло ў доме бабулі з дзядулем, дзе на сценах, як кажа актрыса, былі палотнішчы дзеда.

– Калі ён маляваў, то маляваў маштабна. На карцінах былі нейкія дзіўныя пейзажы: лес і рака маглі пераходзіць у пустыню. А яшчэ дзядуля быў скульптарам. Бюст Сталіна яго работы ездзіў у Маскву на нейкі конкурс. Дома на шафе стаяла скульптура Чапаева. А ў двары, сярод курэй і гусей, стаяў свой уласны Ленін ва ўвесь рост.

Мама Таццяны вышывала.

– Яна мне вышыла такі касцюм, гэта сапраўдны твор мастацтва. Я гляджу на яго і разумею, што такога майстэрства мне ніколі не дасягнуць.

А дзень, калі кавалачкі тканіны і пацеркі з дрэва і керамікі пераўтвараліся ў першую аўтарскую ляльку, Таццяна запомніла.

Было гэта гадоў шэсцьсем таму. Таццяна паехала ў госці да бацькоў. Сустрэла там сваю сяброўку. А тая і кажа: “Ой, я такую ляльку шыю сабе! Цільда завецца!”

– І павяла мяне да сябе. Там я ўбачыла ляльку з анучкі, яшчэ голенькую. Узяла, прыклала да сэрца і такую цеплыню адчула. Тады зразумела: “Я хачу такую ляльку!”.

Сяброўка на нейкай цыраце зрабіла Таццяне выкрайку.

– Я ехала дадому ноч у цягніку і не магла спаць. Думала-думала, як прыеду, з якой тканіны пашыю ляльку. Гэта самы класны перыяд у жыцці, калі жывеш у прадчуванні нечага, чакаеш, хвалюешся. Аж да свярбення ў руках.

З той Цільды і пачалося тое, што і цяпер, бывае, становіцца прычынай бяссонніцы.

– Я стала дастаўваць розныя абрэзкі тканіны, фурнітуру. Калі з тэатрам едзем на гастролі, я ў першую чаргу іду ў магазін тканіны. На сённяшні дзень я як сапраўдны хамяк нахамячыла сабе запасаў надоўга.

Пасля лялькі Цільды, Таццяне на вочы трапіўся часопіс, дзе быў артыкул пра амерыканскую майстрыху Мэг Ханан, якая рабіла ўпрыгожванні ў тэхніцы міліфіёры.

Міліфіёры – гэта калі кавалачкі тканіны розных колераў і фактуры бяруцца на клей і скручваюцца ў рулон. Затым разразаюцца на бляшкі і далей з іх можна вырабляць, што захочаш: бранзалеты, завушніцы, кальє.

Таццяна ў такой тэхніцы вырабляе таксама лялькі-матанкі. Берагіні, як іх называе майстрыха.

– Самае складанае было дадумацца, якім клеем замацоўваць гэтыя кавалачкі, бо амерыканская майстрыха трымала гэта ў сакрэце. Але нашы мастакі з тэатра параілі браць 50% клею ПВА і разводзіць яго вадой у такой прапорцыі.

Аднак на адной засвоенай тэхніцы Таццяне спыніцца было сумна. І яна паспрабавала сябе ў японскім стылі – бора.

– Бора – значыць, абрывак. У даўніну ў Японіі такім чынам латалі кімано. А я спрабую так рабіць футаралы для акуляраў, кашалькі.

Аднак, прызнаецца Таццяна, у сцэнічным жыцці ёй амаль не выпадае прымяраць на сцэне свае ўпрыгожванні.

– Я іграю пераважна прыстойных жанчын.

Аднак ёсць адзін персанаж, якому вельмі пасуюць упрыгожванні Таццяны. Гэта Баба Яга – хэндмэйдар з “Казкі пра чырвоную стужачку”.

– Рэжысёр Алег Чэчанеў, ведаючы пра маё захапленне, прыдумаў для мяне гэту ролю Бабы Ягі -прадпрымальніцы. Яна па сюжэце спектакля вяжа стужачкі на венік і прадае ўтрыдорага. Вось ёй я і прыдумваю розныя вобразы. Яна і можа начапіць нейкія шалёныя завушніцы ці яшчэ як разнастаіць свой гардэроб.

Сама ж Таццяна ў жыцці эксперыментаў не баіцца.

– Толькі аднойчы купіла капялюш з вялікімі палямі. Дык муж сказаў, што яму ніякавата са мной хадзіць. На гэтым спробы стаць прыстойнай жанчынай скончыліся.

У Таццяны таксама вялікая калекцыя кепачак.

– Мама сварыцца. Кажа, ты ж ужо дарослая жанчына, а ўсё у нейкіх пад'яргайках ходзіш. Але я аднойчы вырашыла, што яны мне пасуюць.

Выпендрывацца, як кажа Таццяна, гэта ў яе з дзяцінства.

– Памятаю, у тыя гады мама купляла часопіс “Гірас-мода”. І там была выкрайка блузона. Я ўзяла свой падлеткавы плашчык блакітнага-блакітнага колеру, раскрамсала яго. А была яшчэ ў нас тканіна, атлас-не атлас, але нешта такое бліскучае. І сшыла з той тканіны і плашчыка блузон – лятучая мыш. І насіла ўсё гэта.

У адзенні Таццяна аддае перавагу стылю боха.

– Я, бывае, адзяваю сукенку пад шорты. Гляджу ў люстэрка і думаю: “Ну ты ж прыстойная жанчына, на цябе глядзець усе будуць. Спыніся”. І не спыняюся.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



Таццяна Карпец трымае ўруках сваю першую ляльку – Цільду.



Лялька-берагіня ў тэхніцы міліфіёры.



Паветраныя шары – гэта адно з апошніх захапленняў Таццяны, якое пазбавіла яе сну.



Таццяна дэманструе кальє, якое носіць яе Баба Яга ў спектаклі.

# Па шляху першай у Беларусі электрычкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі ўпершыню, больш за паўстагоддзя назад, пусцілі электрацягнік з Мінска да Алёхнавічаў, то гэта не прайшло без увагі. Інфармацыя гучала па радыё. Пра падзею пісалі ў газетах, паказвалі па тэлебачанні.**

Замена дызеляў скарацiла час у дарозе. Хадзіць электрычкі сталі нашмат часцей. З часам паміж існуючымі станцыямі з'явіліся новыя дадатковыя прыпынкі.

### Хто яны – пасажыры электрацягнікоў

Важнасць і значнасць таго, што адбылося, жыхары вёсак, што знаходзіцца на адлегласці 40-50 кіламетраў ад Мінска, адчулі, успрынялі і ацанілі не адразу. А пазней. Паступова, з цягам часу, гэтыя вёскі, па сутнасці, сталі прыгарадамі Мінска. А ў жыхароў з'явіліся неабмежаваныя магчымасці для паездак за пакупкамі, на вучобу. А галоўнае, пашырыўся выбар для працаўладкавання.

I не асуджайце гэту катэгорыю людзей, да якой у нейкай ступені адношу і сябе, за ўцёкі з вёскі. Людзі скарысталі свабоду выбару працы. Ды і не зусім гэтыя людзі аддалілі сябе ад вёскі. Часта яны працуюць там, куды не рвуцца гараджане.

Партрэт тых, хто ездзіць на працу ў Мінск, вельмі разнародны – ад прыбіральшчыц і грузчыкаў да вучоных і чыноўнікаў. Па ўзросце – ад юнакоў і дзяўчат да пенсіянераў. Сярод жанчын шмат прадаўцоў і тых жа прыбіральшчыц. Сярод мужчын – кіроўцы, будаўнікі, электрыкі, работнікі чыгункі. Большасць з іх жыве непадалёк ад вакзалаў і прыпынкаў. Але многім даводзіцца пераадольваць адлегласць у чатыры-пяць кіламетраў да чыгункі.

Але знаходзяцца і такія, хто не шкадуе сваіх ног. У дождж і снег. А пад нагамі – палявая сцежка. У шмат каго ў гэтых штодзённых паездках праходзіць жыццё – ад школьных год да пенсіі. А некаторым нават выпадае спазнаць вялікае шчасце. І закахацца, знайсці сваю палавінку. Многія з гэтых людзей не маюць магчымасці перабрацца ў горад. А нехта і не хоча.

Калі вы назіральны, то павінны былі заўважыць, што гэтых людзей заўсёды можна выдзеліць з агульнага пасажырапатоку. Раннія і вячэрнія цягнікі – гэта іхнія. Іх пасажыры – спакойныя і засяроджаныя людзі. Упэўненыя і ведаюць сабе цану. У іх не ўзнікае пытанне: хто яны, для чаго і куды кожны дзень едуць. Маюць спецыяльнасці і прафесіі, запатрабаваныя ў горадзе. Нядрэнна ведаюць сам горад і як у ім арыентавацца. Але і ад вёскі не адрываюцца. Некаторыя трымаюць невялікую гаспадарку. Але векавыя звычкі і навыкі ўжо незваротна страчаныя.

Нашых дзяцей, як і гарадскіх, не адарваць ад камп'ютараў і інтэрнэту. Яны ўсё больш аддаляюцца ад фізічнай працы і заняткаў спортам. Усё больш часу праводзяць у віртуальным свеце. Ды і самі мы, дарослыя, усё меней чытаем кнігі і газеты, а сядзім, уткнуўшыся ў ноўтбукі ці планшэты. Або адасабляемся ад усяго навушнікамі.

За працяглы час паездак усё даведзена да аўтаматызму, да звычкі. Мы ўжо і не глядзім у вокны, бо вывучылі ўсе падрабязнасці краявідаў. Але бачым і адзначаем усё і радуемся гэтым зменам. Асабліва, як добраўпарадкуюцца буйныя населеныя пункты на шляху Заслаўе, Ратамка, Ждановічы. І сама станцыя. Але і тое, што застаецца там, у вёсцы, нас хвалюе, як грамадзян. Які будзе ўраджай? Ці правядуць газ? Каб не закрыліся дзіцячы садок і школа. Ці будзе працаваць магазін? А каб не адмянілі аўтобус.

### Спыняемся: станцыя Алёхнавічы

Шмат якія з прыпынкаў электрацягніка за доўгія гады паездак застануцца для нас усяго толькі назвамі. І дзень за днём будуць мільгаць за вокнамі. Мы ніколі без патрэбы не выйдзем на іх. Але ўсё ж, што там? Пачнём з Алёхнавічаў.

Цяпер гэта аграгарадок. Ён быў першым на Маладзечаншчыне. І ўжо ў нікога не ўзнікае пытання, якое паўстала на пачатку 20 стагоддзя ў вядомага пісьменніка Ядвігіна Ш.: і для каго ў застылым полі пабудавалі вакзал? Непадалёк ад вакзала размешчаная цэлая сетка прадуктовых магазінаў. Амаль як у горадзе. Ёсць магазіны і на ўзгорках, бачных з чыгункі, дзе размясціўся адміністрацыйны і культурны цэнтр Алёхнавічаў. Там жа і сярэдняя школа. Непадалёк месціцца вядомая ў акрузе птушкафабрыка. Цяпер яна належыць буйной гандлёвай сетцы. Ёсць нават крышку па-добраму зайздрасць, што статуса аграгарадка не маюць Дубравы. Нейкія першапачатковыя правы ў іх былі і ёсць, але...




Першая электрычка, якая прыехала з Мінска ў Маладзечна.

Электрацягнік адпраўляецца. Паабапал летнікі. Справа па ходу падковай прыгожа раскінулася вёска Пазнякі. Злева, выцягнутая ўздоўж чыгункі, – вёска Раманы. Яна ўжо адносіцца да Радашкавіцкага сельсавета. Ёсць газ, але крамы ніколі не было. Прадукты прывозіць аўталаўка. На прыпынак Раманы прыходзяць людзі і з Навасёлак, Дубраў, Залесся, Валодзькаў.

Электрацягнік бяжыць далей. Злева дугой прамільгнула, ледзь бачная з чыгункі, вёска Вазгелы. Некалі дзеці з гэтай вёскі хадзілі амаль за пяць кіламетраў у Дубраўскую сярэднюю школу. Але аднойчы, я тады вучыўся ў пятым класе, чалавек пяць з нашага класа, вучні менавіта з Вазгелаў, не прыйшлі на заняткі. Аказваецца, як пачаў хадзіць электрацягнік, ім стала выгадней ездзіць у Алёхнавічы.

Я нават памятаю прозвішчы вучняў з той вёскі – Рабушкі, Таратуты, Рамашкевічы. Сярод іх было многа рыжавалосых. Можа, яны прынеслі Дубраўскай школе шчасце. Бо паступова з таго часу пачаўся адток вучняў з Дубраў. На нейкі час адкрылі сярэднюю школу спачатку ў Гіравічах, а пасля сярэдняя школа з'явілася і ў Пугачах. Гэта ўжо Валожынскі раён.

### Кірунак на Мінск: станцыя Дубравы

Тым часам цягнік спыняецца на станцыі з прыгожай назвай – Дубравы. Але не шукайце тут вёску Дубравы, яна за чатыры кіламетры адсюль. А бліжэйшая да вакзала вёска – Уша-2. Да яе вядзе заасфальтаваная і асветленая ў начныя гадзіны лясная дарога. Ва Ушы-2 ёсць магазін, газ і водаправод. Станцыя працуе на адпраўку пяску з кар'ера, які месціцца бліжэй да прыпынку "Пралескі". Тут заўсёды працаваў магазін ад чыгункі. Цяпер яшчэ дадалося некалькі камерцыйных крам. А па выхадных працуе нават стыхійны кірмаш.

Пралескі – адносна новая назва паселішча. Раней гэта месца называлі Кар'ер. Удала размешчанае, бо непадалёк чыгунку перасякае старажытная дарога Радашкавічы-Ракаў, якую не так даўно цалкам заасфальтавалі.

### Вязынка – знакавае месца

І вось чарговы прыпынак, знакавае месца – Вязынка. Злева ад чыгуначнага прыпынку месціцца музей прарока Беларусі песняра Янкі Купалы. Цётка Уладзя, жонка паэта, удала выбрала месца для музея. Яна добра ведала, што значыць гэта месца для самога паэта і якім прыцягальным яно можа стаць у будучым. Ёсць меркаванне, што дарослым Купала ніколі не быў тут. Ён вельмі пакутаваў, што сям'і часта даводзілася мяняць месца жыхарства. Але яго вандроўкі ў пошуках працы праходзілі непадалёк. Для Янкі Купалы, як і для Язэпа Драздовіча, уся Беларусь стала роднай хатай.

Але вернемся ў Вязынку. Ад прыпынку да музея некалькі хвілін ходу. А з'явіўся прыпынак, калі пусцілі электрацягнік. І цяпер не трэба ўсю дарогу да музея дабірацца пехам. Як дабіраўся з Пугачоў у дзяцінстве вядомы ў краіне паэт **Віктар Шніп**. Ці мы, вучні-пачаткоўцы з Дубраў, са сваёй настаўніцай **Браніславай Аляксандраўнай Салавей**.

Пад агульнай назвай Вязынка былі аб'яднаны тры вёскі – Вязынка, Гурнавічы і Сялечкі. А мясціны тут такія, што дух займае. І нездарма гэта мясцовасць захоўваецца як гідралагічны заказнік мясцовага значэння "Рака Вязынка".

З асабістага прывяду такі прыклад. У 60-х гадах мінулага стагоддзя, калі пачалі перасяляцца з хутароў, бацькі хацелі пасяліцца ў Гурнавічах. Але хутка хутарскія самі пачалі будавацца каля нашай хаты, бо непадалёк праходзіла дарога Дубравы-Гарадок, і наша перасяленне само сабой адпала. Тым больш, што мясціны і ў нас такія, што можна межы Вязынскага заказніка пашырыць да Дубраў ці злучыць яго з ландшафтным заказнікам мясцовага значэння "Бортнікі".

Вязынка адносіцца да Маладзечанскага раёна. Тут праходзіць водападзел. Справа ад чыгункі за пяць-шэсць кіламетраў. Заходняя Бярэзіна, што пачынаецца каля Бортнікаў Маладзечанскага раёна, і Уша з вытокам каля вёскі Туркаўшчына Валожынскага раёна цераз раку Нёман упадаюць у Балтыйскае мора. А вось Свіслач, што пачынае свой выток непадалёку, на мяжы Мінскага і Валожынскага раёнаў, ужо рэчка басейна Чорнага мора. Па гэтым водападзеле да 1939 года праходзіла мяжа, што падзяляла беларусаў.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1**
**Маладзечанскага раёна.**

Працяг будзе.

### КАЛЯНДАР

**23 ЧЭРВЕНЯ**

**1944 год.** Пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (аперацыя "Баграціён").

**24 ЧЭРВЕНЯ**

**240 гадоў** з дня нараджэння **Яна Ходзькі** (Барэйкі) (1777 – 1851), беларускага грамадскага дзеяча, пісьменніка, удзельніка паўстання 1830-1831 гадоў. Нарадзіўся ў мястэчку Крывічы (Мядзельскі раён).

**1812 год.** 205 гадоў назад у Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася вайна. На світанні 24 (12 па старым стылі) чэрвеня 1812 года войскі Напалеона без аб'яўлення вайны пераправіліся праз раку Нёман. Армія, якую сам ён называў "Вялікай арміяй", налічвала больш за 600 тысяч чалавек і 1420 гармат. Апроч французаў у яе уваходзілі нацыянальныя карпусы еўрапейскіх краін, пакораных Напалеонам, а таксама польскі корпус маршала Ю.Панятоўскага.

**Свята Івана Купалы.**

**26 ЧЭРВЕНЯ**

**120 гадоў** з дня нараджэння (1897 – 1974) **Лявона Савёнка** (псеўданімы Лявон Крывічанін, Леанід Свэн), беларускага пісьменніка і журналіста. Нарадзіўся ў вёсцы Вялец на Глыбоччыне, памёр у Памоне, штат Нью-Джэрсі, ЗША. У 1917 годзе скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, дзе вучыўся разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Пятром Мятлой, Міхасём Чаротам. У 1933 быў арыштаваны. Сваёй віны не прызнаў і атрымаў пяць гадоў турмы. Тэрмін адбываў спачатку ў Паўднёвай Сібіры, а потым у Алтайскім краі. Пасля Другой сусветнай вайны ў беларускім лагеры ДП Міхельсдорфе. Стварыў беларускі цэнтр у лагеры для перамешчаных асоб Остэрхофен у Германіі. У 1947-м – адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар газеты "Бацькаўшчына". У 1950-м пераехаў у ЗША. Працягваў займацца грамадскай дзейнасцю беларускай эміграцыі, рэдагаваў газету "Беларус", уваходзіў у камісію для перакладу на беларускую мову Бібліі. Сведчыў перад Камісіяй Керстана аб Савецкіх канцлагерах. Дачка яго – Зора Кіпель, беларуская грамадская дзяячка, літаратуразнаўца, публіцыстка.

**95 гадоў** з часу заснавання (1922) у Беларусі пракуратуры (заснаваная пастановай ЦВК БССР).

**28 ЧЭРВЕНЯ**

**1942 год.** 75 гадоў назад у Маскве ў гатэлі загінуў (паводле іншай версіі, быў забіты) Янка Купала, народны паэт Беларусі.

**40 гадоў** назад (1977) у чэрвені пачалося будаўніцтва Мінскага метрапалітэна.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

НАВІНЫ ГЕРМАНІІ

# Чаму немцы аддаюць перавагу найманаму жыллю

**Ураджэнка Гродзеншчыны, якая жыве ў Берліне, расказвае пра жыццё ў Германіі**

У Беларусі сваё жыллё – гэта ўпэўненасць у заўтрашнім дні, магчымасць вялікай эканоміі сямейнага бюджэту ды і доказ уласнай паспяховасці ў грамадстве. У Германіі ж адносна невялікі працэнт насельніцтва мае ўласнае жыллё. Як правіла, гэта людзі сталага ўзросту, якія адбыліся ў сваёй прафесіі і сабралі капітал. Бо задавальненне гэта не з танных. Але ёсць і яшчэ некалькі важных прычын, чаму маладыя людзі альбо сям'і не жадаюць абзяжарваць сябе жыллём.

### Прычыны папулярнасці найманага жылля

Я з мужам і двума дзецьмі жыву ў цэнтры Берліна ў чатырохпакаёвай кватэры, якую мы наймаем ужо сем гадоў. Арэнду мы плацім кожны месяц першага числа дзяржаўнай фірме, створанай адмыслова для таго, каб пакрываць жыллёвыя патрэбы насельніцтва, бо Германія вядзе палітыку сацыяльнай дзяржавы.

> **У кожным населеным пункце існуюць такія дзяржустановы, дзе вам прапануюць розныя варыянты кватэр альбо дамоў на ваш густ і кашалёк.**

Арэнда нашых 92 метраў з выглядам на Аляксандэрплац каштуе штомесяц каля 700 еўра. Зразумела, кватэру можна выкупіць у дзяржавы – тады прыйдзецца раскашэліцца як мінімум на 350 000 еўра, што, вядома ж, здужае толькі чалавек з высокай зарплатай.

Калі быць настойлівым і нястомным ў сваім пошуку – жыллё можна знайсці і за 150 000 еўра, але гэта будзе ўжо двухпакаёўка далёка ад цэнтра.

Я ўсе гэтыя сем гадоў была студэнткай берлінскай ВНУ, і мы не маглі сабе дазволіць купілі такога роду. Але як толькі я выйду на працу і наш сямейны бюджэт будзе штомесяц папаўняцца за кошт ужо двух заробкаў – праз тры-пяць гадоў цалкам рэальна сабраць стартавы капітал і ўзяць у банку крэдыт на астатнюю суму.

### Спальны раён Берліна

Узяць крэдыт не з'яўляецца лёгкай справай і ў Германіі, але калі двое працуюць і даход стабільны, крэдыт пад 1,7-1,9% гадавых вам забяспечаны. Але ёсць шэраг маленькіх нюансаў, якія рана ці позна прыцішаць ваш эйфарычны настрой ад доўгачаканай пакупкі.

### Кран заменяць і адрамантуюць столь бясплатна

Паколькі дзяржава юрыдычна з'яўляецца ўласнікам, да прыкладу, кватэры, у якой мы цяпер жывём, то і за тэхнічны стан і дома, і кватэры адказвае яна. Прыклад: пацёк кран – я выклікаю сантэхніка, які замацаваны кантрактам за домам. Ён прыносіць новы кран, душ і ўстанаўлівае мне гэта ўсё цалкам бясплатна. Калі зімой у кватэры халодна, нягледзячы на тое, што батарэя гарачая, то прыйдуць рабочыя і заменяць мне ў кватэры вокны. І, вядома, гэта будуць вокны больш выдатнай якасці. Усё вам заменяць і адрамантуюць у самыя кароткія тэрміны, ды яшчэ і перапросяць за прычыненыя нязручнасці.

Калі ж уласнікам кватэры з'яўляецеся вы, то ўсё ўсталёўваеце самі. Таксама плаціце сваю штомесячную долю за рамонт пад'езда, за азеляненне і ўборку двара каля дома, за афарбоўку і ўцяпленне фасада дома, за вываз і перапрацоўку смецця, за ўстаноўку смеццявых кантэйнераў, за ўстаноўку кандыцыянераў і пажарных прылад у кватэры і пад'ездзе, за рамонт або ўстаноўку ліфта... Сэнс просты: нават калі вы ўжо аддалі пры куплі гэтыя неймаверна велізарныя 350 тысяч, вы рэгулярна працягваеце плаціць за функцыянаванне і належны выгляд і дома, і кватэры.

А гэта часта тысячы еўра. Зразумела, тут і задумаешся: ці магу я дазволіць сабе выплачваць крэдыт і рэгулярна плаціць па рахунках у адміністрацыю дома, улічваючы пры гэтым, што сям'і трэба харчавацца і апранацца, аплачваць дзіцячы садок?




Фота gs.by

**Хуткасны міжгародні транспарт скарачае адлегласці і эканоміць час.**

Да таго ж шматлікія страхоўкі ды і ўсе свае паўсядзённыя рахункі. Таму ў Германіі юрыдычная і фінансавая адказнасць часта становіцца перашкодай на шляху куплляння кватэры.

### Аптымізацыя свайго часу і рэсурсаў важней за ўсё

Яшчэ адной прычынай невысокага попыту на куплянне кватэр у Германіі з'яўляецца тое, што немцы заўсёды імкнуцца мінімізаваць любыя нязручнасці ў побыце. Напрыклад: офіс фірмы, у якой вы працуеце, перанеслі ў іншы раён, і вам цяпер трэба значна больш часу, каб дабрацца да працы, і, такім чынам, менш дома, вы зараз менш спіце, і выдаткі на бензін сталі большыя. У такой сітуацыі ў выйгрышы будзе той, хто хутка скасуе кантракт арэнды старой кватэры і заключыць кантракт на арэнду новай у раёне, дзе зараз размяшчаецца офіс фірмы.

> **Для немца простая аптымізацыя свайго часу і рэсурсаў вышэй за ўсё, нават важней пачуцця быць уладальнікам сімпатычнай кватэркі.**

### Немцы любяць скардзіцца на суседзяў

Ёсць яшчэ адна прычына, па якой не бойка прадаюцца кватэры прыватнымі асобамі. Гэта боязь "не сысціся характарамі" з суседзямі, таму што, купляючы кватэру, як кажуць немцы, вы купляеце і суседзяў. Па статыстыцы, у судах у Германіі найбольшая колькасць спраў – гэта самыя розныя скаргі на суседзяў: сусед слухае гучную музыку, дзяўбе дрылем сцяну, падразае чужыя дрэўцы і кусты, у суседа пастаянна брэша сабака, увесь час шумяць і бегаюць дзеці...

Немцы вельмі любяць скардзіцца на суседзяў, бо вышэй за ўсё цэняць камфорт і цішыню. Зразумела, калі вы арандуеце кватэру і вас да гневу даводзіць дзбошамі і гучнымі гулянкамі за поўнач ваш сусед, то вы проста з'едзеце з гэтай злашчаснай кватэры з дэбашырам-суседам. Калі ж вы яе выкупілі і кожны месяц выкладаеце кругленькую суму за крэдыт – самі разумееце, з'ехаць адтуль ужо нерэальна.

Для многіх беларусаў рэгулярныя гучныя гулянні за сцяной з'яўляюцца трагічнай рэаліяй жыцця, бо такія бясклапотныя суседзі ёсць амаль у кожным доме. Немцы ж цярпець такога ні псіхалагічна, ні фізічна не гатовыя, а гэта значыць, пастаянныя скаргі ў паліцыю і стос папер у суд з просьбай высялення інфантыльнага суседа. Цяганіна з суседзямі па судах з'яўляецца стрымліваючым фактарам куплі жылля.

### Хуткасны міжгародні транспарт

Ну, і яшчэ адной прычынай, чаму немцы больш ахвотна арандуюць кватэры, з'яўляецца банальны страх страціць грошы на куплі кватэры. А адбыцца гэта можа адносна лёгка: вы купілі кватэру ў новым мікрараёне, аддалі кругленькую суму і вельмі задаволеныя пакупкай, бо ведаеце, што нерухомасць – гэта лепшае ўкладанне і цана на вашу свежапабудаваную кватэру з часам толькі павялічыцца.

Але дзіўным чынам можа адбыцца зусім адваротнае. Насупраць вашага дома могуць пабудаваць дзіцячы сад або школу, што незваротна вядзе за сабой павышэнне ўзроўню шуму як у двары, так і ў вашай кватэры. А гэта адразу ж паніжае кошт кватэры (чытай вышэй – немцы вышэй за ўсё ставяць камфорт і цішыню ў побыце).

Немцы, як самыя вядомыя ў Еўропе "асцярожныя перастрахоўшчыкі", папросту асцерагаюцца страціць грошы на куплі жылля.

Зразумела, ёсць немцы, якія валодаюць нерухомасцю. Гэтак жа як і ўсюды ва ўсім свеце, яны таксама купляюць жыллё. Але гэта людзі з вялікім капіталам, з высокім прыбыткам і прэстыжнай прафесіяй, гэта значыць, тыя, якім не пагражае жабрацкае існаванне пры якім-небудзь няўдалым дагаворы куплі-продажу. А так, увогуле, можна сказаць наступнае пра тэндэнцыі нямецкага жыллёвага рынку:

– у асноўнай сваёй масе немцы арандуюць кватэры ў дзяржавы, радзей у прыватнага ўласніка;

– тыя, каму дазваляе іх фінансавае становішча, аддаюць перавагу куплі альбо пабудаваць дом;

– маладыя людзі больш ахвотна арандуюць спецыяльна ўладкаваныя кватэры студэнцкага тыпу, у якіх пражываюць з мэтай эканоміі па трое альбо чацвёра;

– і толькі невялікі працэнт насельніцтва валодае кватэрамі.

Кватэру, якую мы арандуем цяпер, мы выкупляць не збіраемся, гэтак жа як і большасць немцаў. Мы падзбіраем яшчэ стартавы капітал і возьмем крэдыт на будаўніцтва уласнага дома ў адным са спальных раёнаў Берліна, дзе пераважаюць прыватныя дамы, не баючыся пры гэтым рэгулярных выплат ў жыллёва-камунальная гаспадаркі шматкватэрнага дома і не баючыся, што пабач з намі разгорнуць будоўлю хімзавода або што ў суседзі нам патрапіць дэбашыр-сусед.

**Марына РОХНЕР, жыхарка Берліна.**
**Паводле "Газеты Слонімскай".**



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

"Рэгіянальная газета" працягвае праект "Простыя рэчы". Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта Аксана ЯРАШОНАК.

# Цуда-машына, якая верне вас у мінулае

## Як мылі ў пральных машынах, якія працавалі пяць хвілін, а адзежу трэба было выкручваць уручную

ВІЛЕЙКА

**Развіццё тэхнікі крочыла далёка наперад.**

Цяпер, каб памыць адзенне, дастаткова пакласці ўсё ў пральную машыну, засыпаць парашок альбо іншыя мыйныя сродкі, выбраць неабходны рэжым, ступень адціскання, націснуць кнопачку запуску і чакаць пэўны час, пакуль машына зробіць сваю справу.

Калі большасць гараджан мае такі цуд тэхнікі, то многія вяскоўцы не забываюцца на пральныя машыны. "Феі", "Рыгі", "Ака", яны і цяпер спраўляюцца са сваімі функцыямі.

Хаця некаторыя з іх трансфармаваныя ў ёмістасці, у якіх зручна захоўваць ваду, а пасля паліваць агарод альбо мыць рукі.

У вёсцы Заброддзе Даўгінаўскага сельсавета Вілейскага раёна нам удалося адшукаць пральную машыну "RIGA-13".

– Яна крышачку перабленая, – расказвае **Лідзія Адамовіч**. – У нас раней была машына "Ака", аднак у яе пацёк корпус, мыць адзенне стала немагчыма. У знаёмых была машына "Рыга" з цэлым корпусам, аднак не працаваў сам механізм. Муж склаў з дзвюх машын адну: корпус з "Рыгі", а механізм – з "Акі". Не трымаўся шланг, каб зліваць ваду, муж прымацаваў дротам. Старая ўжо машына, унізе ржа пайшла, але працуе.



Лідзіі Адамовіч дачка прапаноўвала набыць машыну-аўтамат, аднак сваёй старэнькай "Рызе" жанчына не здраджвае.




Так выглядае машына "Рыга-13".

### Як працуе пральная машына

Машына мае два рэжымы: "жорсткі" – актыватар круціцца супраць гадзіннікавай стрэлкі. Такі рэжым выкарыстоўваецца для мыцця адзежы са шчыльнай тканіны. "Беражлівы" рэжым – актыватар круціцца па гадзіннікавай стрэлцы, выкарыстоўваецца для мыцця адзежы нармальнай і малой шчыльнасці.

– Каб памыць адзенне, папярэдне трэба набраць у машыну ваду, засыпаць парашок, – тлумачыць суразмоўца. – З дапамогай рэгулятара можна настроіць час, які машына будзе працаваць, ад адной хвіліны да пяці. Затым можна ўключыць зноў.

Сам працэс мыцця выглядае гэтак жа, як і пры мыцці адзення ў машыне-аўтамаце – усё круціцца па коле.

На саму машыну прымацаваныя прылада для адціскання адзежы. Яна ўяўляе сабой два гумовыя валы, паміж якімі ўстаўляецца адзенне. Уручную трэба круціць рукаятку, каб выціснуць ваду.

Пры дапамозе шланга спускаецца брудная вада.

– Машына стаіць у прылазніку, – расказвае гаспадыня. – Гэта вельмі зручна. Застаецца вада ў лазні, мыю адзежу. Даносім ваду толькі, каб прапаласкаць, раблю гэта ў начоўках, затым развешваю. Дачка прапаноўвала набыць машыну-аўтамат, гаворыць, так лягчэй і клопату менш, а мне і гэтай зручна, ды і больш звыкла. Малую адзежу рукамі мыю, а вось пасцельную бялізну, рабочую адзежу рукамі так не вышаруеш – машына дапамагае.



Прылада для адціскання адзежы ўяўляе два гумовыя валы, паміж якімі ўстаўляецца адзенне. Уручную трэба круціць рукаятку.

### Каб прадаць пральную машыну, дэманструюць цуды красамоўнасці

Цяпер пральную машыну "Рыга", якая была ў карыстанні, можна знайсці па цане ад 50 рублёў да 90 рублёў.

Пры гэтым, каб прадаць тавар, прадаўцы дэманструюць усе магчымасці красамоўнасці: "Пральная машына "Рыга-17". Тэхнічна працуе, з добрым знешнім выглядам. Чакае свайго пакупніка, які разумее толк у мыцці". Цуда-машына верне Вас у мінулае".

Мяркую, што гаспадыня, якая хоць раз карысталася сучаснай аўтаматычнай машынай, наўрад ці захоча быць пакупніком, які разумее толк у мыцці.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# Кіраўнік ФК “Чысць” Мікалай Мятліцкі:
# “Там дзе я, там футбол будзе”

МАЛАДЗЕЧНА

**Кіраўнік футбольнага клуба “Чысць” Мікалай Мятліцкі – дзейны гулец, рэгулярна выходзіць на поле ў матчах другой лігі. На днях застаўся пабітым рэкорд Юрыя Пудышава, які неяк дзеля гумару згуляў ва ўзросце 56 гадоў і 6 месяцаў. Чысцінскаму паўабаронцу цяпер 56 гадоў і 7 месяцаў.**


Мікалай Мятліцкі.

Фота з сайта by.tribuna.com

**– Многія вашы равеснікі даўно рыхтуюцца да пенсіі, а вы ўсё яшчэ гуляеце ў футбол.**

– Калісьці даўно гуляў з таварышам, які старэйшы за мяне. Яму далі пас на ход, а ён за мячом не рвануўся. Я пачаў яму выгаворваць: “Чаго не бяжыш!?” Ён у адказ: “Глядзі, Рыгорыч, прыйдзе час – і ты не пабяжыш”. Дык вось пакуль для мяне гэты час не наступіў. Трэніруюся так, як і ўсе хлопцы ў нашай камандзе. Не прапускаю ніводнай трэніроўкі. Нават кросы бегаю. Калі адчую, што ў чымсьці саступаю хлопцам, скончу.

Цяжэй за ўсё мне зімой, калі няма трэніровак. Без нагрузак не ведаю, куды сябе падзець. За стольк і гадоў ужо звычка выпрацавалася. Фізіялогія, пэўна, у мяне такая – арганізм патрабуе нагрузак. Без іх адчуваю сябе стомленым, знаходжуся не ў тонусе. З вялікай нецярплівасцю чакаю пачатку трэніровак, каб зноў адчуць прыліў энергіі і сіл. У адпачынку вытрымліваю максімум месяц. Бліжэй да новага года ўжо збіраемся пакрысе з хлопцамі ў зале.

**– Кажаце, што кросы бегаеце. Вытрымліваеце?**

– Я нарадзіўся і вырас у вёсцы. Як навучыўся хадзіць, пачаў гуляць у футбол. Летам з хлопцамі ганялі мяч, а ўвосень, калі шмат гразі, але яшчэ няма лёду, выносілі на паляну хакейныя вароты і гулялі ў хакей на траве. Тады была мода на гэты від спорту, і клюшкі былі даступныя. Гразь мясілі тэнісным мячыкам. Зімой жа пераключаліся на класічны хакей. Гулялі круглы год! Праводзілі розныя турніры. Памятаю, месяц свеціць, і мы у цемры носімся, нейкім чынам шайбу бачым.

А яшчэ ж па гаспадарцы паспявалі. У нашай сям'і было шасцёра дзяцей. Я адзін з малодшых і пастаянна на дапамозе: паліў печку, насіў дровы. Увогуле, здаровенькім быў. І трывалам.

Вось выпадак. У арміі праз нейкі час пасля прызыву далі марш-кідок. За мною замацавалі сяржанта, каб дапамагаў, але на фініш я прыбег, несучы на сябе пяць аўтаматаў. Камандзір быў настолькі ўражаны, што зрабіў мяне галоўным па спорце.

**– Што адчуваеце, калі разумееце, што ў сваім узросце мацней за некаторых з маладзі?**

– Калі гэта разумею, магу яшчэ мацней пайсці ў “стык”, каб завесці хлопцаў. Раблю ўсё, каб падахвоціць іх. У “квадратах” мне ніколі не паддаюцца. Як толькі заходжу ўнутр, у хлопцаў падвойнае жаданне пратрымаць мяне там. І я мабілізуюся. Пасля аднаго з заняткаў білі пенальці. Варатар прапускаў усё запар. Падышла мая чарга. І што думаеш? Ён выцягнуў! Настроіўся спецыяльна на мяне.

**– Які вы па хуткасці ў камандзе?**

– Не апошні. Я ўжо ў дзявятым класе гуляў за “Хойнікі” на чэмпіянаце Гомельскай вобласці. Выходзіў у стартавым складзе. І ўжо тады казалі, калі я маю некалькі метраў форы перад абаронцам, усё – сапернікі не дагоняць. Не адчуваю, што цяпер некаму ў камандзе саступаю па хуткасці.

**– Калі вы апошні раз гулялі поўны матч?**

– Летась. Мяне хапае на ўсе 90 хвілін, але пакуль гуляю менш. Мы ўзялі маладых. Даём ім практыку. Але чэмпіянат вялікі, яшчэ нагуляюся. Ёсць прыкмета. Як толькі з'яўляецца пот, “дыхалка” пачынае выдатна працаваць. Часам на трэніроўках не паспяваю спацець. Тады **Дзяніс** адпраўляе насіцца па крузе. Мяне хоць зараз пастаў – вытрымаю поўны матч.

**– Галоўны трэнер каманды – ваш сын. Як гэта?**

– Нармальна. У яго справы не лезу. Хаця пасля матча, калі мяне выдалілі з лаўкі, сказаў, што віна ягоная. Была паўза ў гульні, трэба было рабіць замену, але Дзяніс празяваў. І літаральна тут жа пасля спрэчнага моманту я сарваўся, падляцеў да броўкі і пачаў размаўляць з арбітрам. Ну, і атрымаў чырвоную картку.

Не магу цярпець, калі суддзі па-рознаму трактуюць адны і тыя ж моманты. Гук ад удару па назе чутны на трыбунах, а суддзя кажа, што нічога не было. Праз пяць хвілін у такім жа выпадку, але ў супрацьлеглы бок, фіксуе парушэнне. Вось такога не прымаю.

Часта заходжу ў суддзейскую, кажу: “Вы прыехалі да нас у госці. Мы стварылі вам умовы. Мы робім свята для балельшчыкаў. Калі ласка, не сапсуйце гэта сваім судзействам”. Калі прыязджаюць арбітры з вышэйшай лігі, узровень бачны адразу. Яны працуюць упэўнена, даюць гуляць і выдатна здымаюць напругу на полі. Прычым не карткамі, а словамі.

**– Ёсць прыклад, калі пачуццё справядлівасці абвастралася па-за футболам?**

– Дзедаўшчына ў арміі мяне не пужала. Падышоў неяк старэйшы з іншай роты: “Эй, шукай мне цыгарэты хутчэй!” А ў мяне прынцып наконт курэння. Кажу ў адказ: “Я не куру і цыгарэты шукаць не буду”. Ён пачаў “бычыцца”, але я яго супакоіў. Не, мы не біліся. Проста я адстаяў сваю пазіцыю. Чаму я, які не курыць, павінны нешта некаму насіць? Хаця былі такія салдаты, хто пасля падобных наездаў ішоў у буфет і купляў “старым” цыгарэты.

Служыў я ў 1979-81 гадах. Якраз у той час тбіліскае “Дынама” выйграла Кубак Кубкаў. Што ў краіне рабілася! Ажыятаж і святкаванне былі нават у Маскве. У нашай вайсковай часці грузіны расказвалі, што ў Тбілісі ў кафэ і рэстаранах наведнікам бясплатна налівалі віно. Няважна, якой ты нацыянальнасці. Частавалі ўсіх запар.

**– Вы не выглядаеце на чалавека, якому хутка ўжо будзе 60 гадоў.**

– У мяне няма здаровага харчавання, калі ты пра гэта. Я ніколі не смакую ежу. Скажу нават больш – часцей перакусваю на хаду. Калі ўсе садзяцца за стол, я звычайна ўжо сыты. І так увесь час. Хаця адно правіла ёсць: галоўнае, есці мяса, тады ногі зводзіць сутаргамі не будзе.

Мне смешна, калі футбалісты пачынаюць плакаць, што пацягнулі заднюю мышцу. От, блін! Я да 30 гадоў увогуле не ведаў, дзе тая задняя, дзе пахі, усё было нармальна. Ніколі не выходжу на трэніроўку ці гульню неразмятым. Адзін раз у жыцці такое было, калі гуляў за “Хойнікі”. Перад матчам па нейкіх прычынах “завазіўся” і выскачыў на поле напрыканцы размінкі. Ударыў па варотах, адчуў лёгкі ўкол у сцягне. Напачатку гульні бягу да мяча і адчуваю, што па ім як нажом паласнулі. Нават не здолеў па мячы ўдарыць. Адразу замяніўся, два тыдні хадзіў на працэдуры. Заўсёды кажу хлопцам – не рвіцеся на поле, спярша трэба размяцца.

**– Вы знаёмы з чэмпіёнам СССР Юрыем Пудышавым, які некалькі разоў згуляў за БАТЭ таксама ў салідным узросце?**

– Канешне. Мой малодшы сын, **Мікіта**, быў у яго ў дублі БАТЭ. Я і з **Віцем Ганчарэнкам** разам пагуляў за “Хойнікі”.

**– Якім ён быў футбалістам?**

– Вось у нас ёсць хлопцы, якія яшчэ нічога не дамагліся, але лічаць сябе вялікімі. Сядзяць у бары і расказваюць пра сваю “крутасць”. Віця не такі. Ён працаўнік, малайчына. З-за траўмы не здолеў многага дамагчыся, але адбыўся як трэнер. У маладосці прыязджаў да мяне ў Чысць пагасціць. Я вучыў яго вадзіць машыну, даваў свой “Жыгулёнак”.

**– Калі вы з Хойнікаў пераехалі ў Чысць?**

– У 1996 годзе. Гісторыя павучальная. У 10 кіламетрах ад райцэнтра быў саўгас “Стрэлічава”. Яго дырэктар – амбіцыёзны, заўсёды хацеў быць першым. Мы неяк сустрэліся, і я прызнаўся, што хачу зрабіць на базе яго саўгаса каманду. Каб угаварыць канчаткова, паабяцаў, што аднаўлю стадыён. Мы ездзілі на зборы, атрымлівалі прэміяльныя, усё было выдатна да пэўнага моманту. Узнік канфлікт з кіраўніцтвам райвыканкама, у выніку фінансаванне спынілася. Я напісаў заяву аб звальненні па сваім жаданні і паехаў спачатку ў Нясвіж, а потым да радні ў Чысць, працаваў у аўтасэрвісе.

Аднойчы гуляў па пасёлку і наткнуўся на стадыён, які быў у дрэнным стане. Хадзіў па ім, збіраў каменне. Падышоў дырэктар школы:

– Жадаеце нам дапамагчы?

– Так, добры стадыён прападае. Трэба яго аднаўляць.

Мяне ўзялі па паўстаўкі. Аднавілі стадыён, хутка і каманда з'явілася. Эх, нам бы яшчэ гасцініцу! Тут жа ёсць усё: басейн на 25 метраў, чатыры спартзалы, стадыён. Любыя зборы можна праводзіць. Былі званкі з Расіі. Усё задавальняе, але як даведваюцца, што бліжэйшае жыллё за 15 кіламетраў у горадзе – адмаўляюцца.

**– Які цяпер бюджэт у вашага клуба?**

– Напісаў 600 мільёнаў. Гэта 60 тысяч новымі. Шукаць спонсараў цяжка, але даюць грошыкі, хто – 500 рублёў, хто – тысячу. У нас усё будзе добра. Заўсёды кажу: там дзе я, там футбол будзе.

Падрыхтаваў
**СЯРГЕЙ ГАЙКОВІЧ**
паводле by.tribuna.com.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Землеўладанне, якое займае вялікую плошчу. У Старажытным Рыме – маёнткі, якія спецыялізаваліся на экспартных галінах сельскай гаспадаркі.
4. Жонка брата.
5. Васіль Быкаў: “Як заўжды на вайне, галоўная плата – кроў, і плаціць той, хто найменш ...”
7. Выхавальніца ў малых дзяцей, звычайна іншаземка.
10. Выдумка з мэтай увядзення ў зман або запалохвання.
13. Лёгкае дакрананне.
16. Дзіця, якое вылучаецца раннім развіццём.
17. Месца паміж сцяной і печчу.
18. Мазь для чысткі скуранога абутку.
19. Як трэба.
20. Скручаны лазовы ці бярозавы дубец, якім прывязваюць што-небудзь.
23. Прадстаўнік манапалістычнага капіталу.
27. Загарода, прызначаная для абароны ў час вулічных баёў.
29. Нізкая вечназялёная расліна з дробным лісцем і лілова-ружовымі кветкамі.
32. Спецыяліст з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй.
33. Канцылярская прылада з грыфелем.
35. ... не будзе – гром не ўдарыць.
36. Працяглая моцная стральба з вялікай колькасці гармат.
38. Невялікі хірургічны нож, востры з двух бакоў.
39. Самая буйная, галоўная артэрыя, якая жывіць артэрыяльнай крывёй органы цела.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Накладная планка вакол дзвярнога ці аконнага праёму.
2. Грошы, якія па законе ідуць на ўтрыманне непрацаздольных дзяцей або бацькоў ад асобы, што звязаная з імі адносінамі роднасці і жыве асобна.
6. Англійская гарэлка, прыпраўленая ядлоўцавымі ягадамі.
8. У пачатку існавання гэтай цяпер адной з буйных міжнародных кампаній яе работнікі доўга не маглі прыдумаць назву фірмы. Кіраўнік паставіў калег перад умовай: калі да пэўнага часу не будзе лепшай прапановы, ён дасць імя у гонар свайго любімага фрукта. Што гэта за фрукт?
9. Меры, дзеянні, накіраваныя на дасягненне мэты.
11. Агульная назва хлебных злакавых раслін.
12. Выкапаны штучны вадаём.
14. Доўгі скразны рад пакояў у грамадскіх будынках, палацах.
15. Трапічны арэх.
21. Міфічны крылаты конь.
22. Металічная трубка для кулі, у адтуліну якой ўстаўляецца капсюль.
24. Возера на мяжы Мядзельскага і Смаргонскага раёнаў, у басейне ракі Страча.
25. Чысцільшчык комінаў.
26. Які валодае вялікай фізічнай сілай.
28. Які від мастацтва прасоўваў у Беларусі Ігнат Буйніцкі?
30. Двухмоўе.
31. Бясплатна.
34. Бервяно, апілаванае або абчасанае з чатырох бакоў.
37. Вынік адымання.
38. Адрэзаны вялікі кавалак хлеба.
39. Надзейная абарона.
40. Смалістае рэчыва, якое выкарыстоўваюць для націрання смычкоў струнных інструментаў.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №24

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Уран. 3. Дэкада. 4. Балет. 5. Базіната. 8. Камчатка. 10. Камарова. 14. Люксембург. 17. Байхавы. 18. Амальгама. 19. Газета. 20. Ваніль. 21. Панін. 24. Ласы. 25. Доза. 26. Жалюзі. 30. Тэарэма. 33. Солы. 34. Глабель. 35. Куб. 39. Альянс. 40. Банкет.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Гудок. 5. Бальзам. 6. Законаў. 7. Тара. 9. Акула. 11. Гапак. 12. Спрэчка. 13. Ваза. 15. Азімут. 16. Расінант. 19. Грэх. 22. Вецер. 23. Атолы. 27. Альт. 28. Іспанія. 29. Аванс. 31. Ежа. 32. Агат. 36. Лебедзя. 37. Сальда. 38. База. 41. Геаметрыя. 42. Жакет.

## ГАРАСКОП 23-29 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Перыяд актыўнага расшырэння гарызонтаў і адстойвання жыццёвых пазіцый. Вас будзе моцна цягнуць у далёкія краіны і рамантычныя падарожжы.



**ЦЯЛЕЦ.** Для вас шчаслівы дзень тыдня – пятніца. Ёй кіруе Венера. Так як гэта планета спрыяе мастацтву, у гэты дзень добра займацца усімі відамі мастацтва. Зрабіце Венеры прыемнае: спявайце, танцуйце, малюйце, ігрыце, развесяліце хоць бы аднаго чалавека. У дзень Венеры добра удзяліць час сабе, сваёй прыгажосці. Гэта лепшы дзень тыдня для паходаў у цырульні, салоны, для касметычных працэдур, для догляду за сабой. Усё, што вы зробіце ў гэты дзень, будзе мець вялікі эфект.



**БЛІЗНЯТЫ.** Старайцеся настроіць сябе на пазітыўны лад. Магчыма нечаканае вяртанне ў ваша жыццё чалавека, з якім вы пазнаёміліся ў канцы мінулага года. У вас увогуле цяпер лёгка закахацца. Але вось самі вы наўрад ці зведаеце такое сур'ёзнае пачуццё.



**РАК.** Вас чакае эмацыйны усплёск, і ён абяцае быць станоўчым. Вы зможаце пазнаць свайго партнёра з новага боку, спасцігнуць глыбінныя прычыны яго паводзін, яго схаваныя жаданні і сапраўдныя патрэбнасці, што спрыяльна адаб'ецца на далейшым развіцці вашых адносінаў. У гэты час добра спасцігаць і тайны сваёй душы.



**ЛЕЎ.** Закіньце ўсе нетэрміновыя справы, займіцеся тым, што сапраўды важна цяпер. І не сумнявайцеся ў сваім поспеху, вы можаце самі кіраваць ім. Стрыманасць і спакой – неабходныя ўмовы для захавання высокага жыццёвага патэнцыялу і добрага адчування на працягу ўсіх дзён.



**ДЗЕВА.** Не спрабуйце ажыццявіць усе свае дзелавыя і службовыя даручэнні, перагрузка можа адмоўна адбіцца на здароўі. Нестабільная становішча можа прывесці да абвастрэння хранічных захворванняў, таму будзьце напагатове і пастарайцеся паберагчы сябе, у супрацьлеглым выпадку ваш візіт да доктара непазбежны.



**ШАЛІ.** Жыццё будзе здавацца вам аднастайным і сумным, усе падзеі, што будуць адбывацца вакол вас, не змогуць нічым зацікавіць і прыцягнуць вашу ўвагу. У гэты час вы схільныя пагружацца ў сябе, адмаўляцца ад даброт. Але гэта пойдзе на карысць. Часам трэба браць перапынак, каб разабрацца ў сабе.



**СКАРПІЁН.** Не прымярайце на сябе вобраз сапраўднага дамашняга тырана! А то вы як быццам дакладнае ведаеце, што кожнаму трэба рабіць. Ад гэтага ўзнікнуць толькі праблемы. Хтосьці з вашага акружэння ў сваіх роздумах дасць вам падказку ўнікальнага вырашэння даўняй праблемы. Будзьце ўважлівыя.



**СТРАЛЕЦ.** Дазвольце сабе адпачнуць. Усе справы будуць вырашацца без вашага ўдзелу. У гэты час добра ісці ў адпачынак ці, як мінімум, скінуць з сябе лішні груз праблем.



**КАЗЯРОГ.** Не спадзявайцеся на ўдачу, толькі дасканалая падрыхтоўка можа схіліць чашу вагаў на вашу карысць. Вам трэба заглянуць трохі наперад і перагледзець сваю дзейнасць, каб цвёрда стаць на ногі. Нейкі чалавек, можа, стары сябар, гатовы аказаць вам дапамогу.



**ВАДАЛЕЙ.** Гэты час падыходзіць для зацішша, адзіноты, калі вы не надта цяжка яе пераносіце. У такія моманты лепш за ўсё прывесці свае пачуцці і думкі ў парадак, разабрацца ў сабе і па-новаму зірнуць на навакольных.



**РЫБЫ.** Вакол вас многа мудрых людзей, таму варта прыслухоўвацца да іх парадаў, нават калі яны бывае ідуць у разрэз з вашымі жаданнямі ці поглядамі на жыццё. У вас у гэты час абвостраная інтуіцыя, таму вы і самі зможаце ў шмат чым разабрацца, але ўглядзець усе дэталі і пазбегнуць складанасцяў у далейшым вам дапамогуць парады блізкіх вам людзей.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | | | | | | |
| | | | | | 4 | | 8 | 5 |
| | 2 | | | 9 | | 7 | 3 | |
| | 8 | | 5 | | | 6 | 1 | |
| 4 | | | 1 | | 7 | | | 3 |
| | 1 | 9 | | | 6 | | 4 | |
| | 4 | 7 | | 6 | | | 2 | |
| 2 | 3 | | 9 | | | | | |
| | | | | | | | | 6 |

**Запоўніце усе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



## КУДЫ СХАДЗІЦЬ У МАЛАДЗЕЧНЕ

## “Шчаслівыя разам” у гарадскім парку 25 чэрвеня

Конкурсная праграма для маладых сем'яў “Шчаслівыя разам” адбудзецца ў парку 25 чэрвеня ў 18:00.

Цэнтралізаваная клубная сістэма запрашае да ўдзелу маладыя сем'і. Падчас конкурсу яны пазмагаюцца ў інтэлектуальным, спартыўным і творчым конкурсах.

Каб паўдзельнічаць у конкурсе, маладыя сем'і павінны падаць заяўку ў цэнтралізаваную клубную сістэму па адрасе: вуліца Лібава-Роменская, 71, тэл. 772 852, e-mail: molodrmc@yandex.ru

У заяўцы ўказаць колькасць членаў сям'і, дату нараджэння кожнага, кантактныя дадзеныя.

Па выніках конкурсу ўдзельнікі атрымаюць дыпломы і сувеніры.

**Наталля ТУР.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**24 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 +18 | | +13 +20 | | +15 +21 | | +17 +17 | |
| | 733 | ← 3 | 736 | ↑ 2 | 735 | ↗ 4 | 733 | ↑ 5 |
| Вільня | +11 +20 | | +11 +17 | | +14 +20 | | +16 +18 | |
| | 741 | ↖ 2 | 744 | ↗ 6 | 742 | ↗ 6 | 740 | → 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.39
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.12

Усход 5.19
Захад 21.52
Маладзік




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +4,5 °С у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +28,2 °С у 1979 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,2 мм у 2006 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- У вёсцы Даўгінава на Вілейшчыне жыве 90-гадовы мужчына, які працаваў кінамеханікам. У чым заключалася яго работа, чытайце праз тыдзень.



## О реализации имущества ООО «Спецрезервстрой»

**Организатор торгов**: ООО «Спецрезервстрой»
**Продавец:** ООО «Спецрезервстрой» (УНП 690695128).
**Форма проведения торгов:** Вторые повторные торги в форме открытого аукциона.
**Дата и место** проведения торгов: 7.07.2017 в 12.00 по адресу: г. Минск, ул. Сурикова, д.50.

**Сведения о предмете торгов:**

**Лот №1**: Капитальное строение, здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (столярный цех), инв. №630/С-16783, земельный участок кадастровый номер 623850100003002740 площадь 0,1282 га, площадь здания – 350,6 кв.м.

**Лот №2**: Капитальное строение, здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (пилорама), инв. №630/С-1935, земельный участок, кадастровый номер 623850100003002739, площадь 0,3287 га, площадь здания – 442,5 кв.м.

**Начальная цена:**
**Лот №1** - 29082 белорусских рубля 24 копейки с НДС;
**Лот №2** - 47486 белорусских рублей 52 копейки с НДС;

**Порядок проведения торгов:** Шаг аукциона - 5%. Победителем торгов будет объявлено лицо, предложившее наибольшую цену. Размер задатка для участия – 10% от начальной цены лота перечисляется до подачи заявления на р/с продавца.

**Заявки на участие** принимаются организатором торгов по адресу: 220026, г. Минск, а/я 109, до 11.00 6.07.2017г. Задаток перечисляется на счет продавца - ООО «Спецрезервстрой» (УНП 690695128) р/с 3012100025094, код 153001742 в ОАО "Белгазпромбанк" г. Минск, УНП 690695128. Документы, необходимые для участия в торгах: заявка на участие в аукционе; платежный документ о перечислении задатка; документ, подтверждающий полномочия на участие в торгах. Сроком поступления заявления является дата регистрации в журнале регистрации.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым вы займаецеся летнімі начамі?



**Дар'я Снапко, маладая мама:**

– Я – маладая мама, днём усю сябе прысвячаю дзіцяці, аднак сесію ніхто не адмяняў, таму даводзіцца рыхтавацца ноччу. У мяне пяць экзаменаў, пяць залікаў, а таксама курсавая і міні-заданні па прадметах.



**Арцём Грэчка, кіраўнік дадатку "Маё Маладзечна":**

– Начамі працую за камп'ютарам, аднак хапае часу на тое, каб выспацца. Часта ўзгадваю ноч на Вілейскім вадасховішчы. Вельмі ўразіла спакойная прырода, добрае надвор'е. Калі пачынаецца зоркапад, абавязкова загадваю жаданне, думаю, што збудзецца.



**Дар'я Чарнюк, бухгалтар:**

– Звычайна сплю альбо займаюся любімай справай – шыю ўборы для сваіх дзяцей. Хапае некалькі гадзін ночча пасядзець – і адзенне гатовае. Самай запамінальнай была ноч, праведзеная ў радзільні пасля нараджэння дачкі. Усю ноч глядзела на сваю малютку і не магла паверыць свайму шчасцю.



**Святлана Сеннікава, фатограф:**

– Сплю альбо апрацоўваю фотаздымкі, бо працую фатографам. Самая запамінальная ноч была ў гарах. Як выйдзеш з пячоры з глыбіні 400 метраў, ноч такая цёплая, такі водар у паветры, а зоркі…



**Ілля Міцько, плітачнік:**

– Адпачываю на рыбалцы. З уловам па-рознаму бывае, аднак чышчу рыбу заўсёды сам. Запомнілася больш за ўсё ноч падчас адкрыцця рыбалоўнага сезона: дзень быў, як і звычайна, але ноччу рыба так клявала, што не паспявалі нажыўку мяняць.

**Падрыхтавала Галіна СУДНІКОВІЧ.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1156) 23.06.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 584. Падпісана ў друк у 9.00 22.06.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.